№№201–202
(3740–3741)

28 снежня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*Наступны нумар «Народнай Волі» выйдзе 4 студзеня 2013 года.*

## *З надыходзячым Новым годам! З Калядамі!*

*На зыходзе 2012-ы.*

*Якім ён быў?*

*Адказаць на гэтае пытанне, мяркуем, не складана — кожны з нас можа ўзгадаць ледзь не ўсе падзеі, якія адбыліся за апошнія 12 месяцаў.*

*А таму мы вырашылі зазірнуць далей, як кажуць, за гарызонт. Сваіх субяседнікаў папрасілі падзяліцца ўспамінамі больш аддаленых часоў. Такім чынам у полі зроку апынуліся многія факты, падзеі найноўшай гісторыі Беларусі. А яна, як вы ведаеце, пачалася ў 1991 годзе, калі Вярхоўны Савет рэспублікі 12-га склікання прыняў Дэкларацыю аб НЕЗАЛЕЖНАСЦІ.*

**ВІНШУЕМ!**

## Каханне пераможа ўсё

*Наста Палажанка стала Настай Дашкевіч. Літаральна напярэдадні Новага года ў Гродзенскай турме быў зарэгістраваны шлюб паміж самымі яркімі маладзёжнымі актывістамі апошняга часу — Зміцерам Дашкевічам і яго нявестай-прыгажуняй Настай.*



(Заканчэнне на 7-й стар.)

**АСОБА**

### *Міхаіл ЧЫГІР:*

## «Ні аб чым не шкадую!»



**У гісторыі краіны ёсць знакавыя фігуры і падзеі. Адзін з такіх — былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, чалавек, які не пабаяўся сысці з высокай пасады ў знак пратэсту супраць рэферэндуму, на якім было вырашана даць прэзідэнту фактычна неабмежаваныя паўнамоцтвы.**

**Пасля былі і турма, і апала, карная машына прайшла па лёсе ўсёй сям'і Чыгіроў. Але ў той жа час прыклад Міхаіла Чыгіра сведчыць пра тое, што і на высокіх пасадах могуць аказацца сумленныя і прыстойныя людзі.**

**— Міхаіл Мікалаевіч, вы былі першым прэм'ер-міністрам у прэзідэнцкай рэспубліцы. Не шкадуеце, што ў лістападзе 1996 года, напярэдадні рэферэндуму, нанеслі такі ўдар па Аляксандру Лукашэнку, калі гучна сышлі ў адстаўку?**

— А які сэнс азірацца і шкадаваць? Што зроблена, тое зроблена.

Вы ўключыце тэлевізар і паглядзіце, як сёння адчуваюць сябе Міхаіл Мясніковіч ды іншыя, калі сядзяць на тых нарадах і канспектуюць тое, што і канспектаваць не варта. Абсалютна не шкадую! Лічу, што паступіў правільна.

**— А што за апошнія 20 гадоў стала для вас самым нечаканым?**

— Самай вялікай нечаканасцю для мяне сталі ўзаемаадносіны з Расіяй. Вось гэта мяне вельмі ўразіла. Гэта вельмі дзіўна, асабліва калі ўлічыць, што ў гэтай сітуацыі ўсё добра для беларусаў, але даволі накладна для Расіі. Раней я не мог нават выказаць такую здагадку. Быў перакананы, што наша дзяржава будзе самастойнай і жыць за кошт сваіх сіл, а не карыстацца сяброўствам, маючы з гэтага неблагія грошы.

**— Вы нейкі час працавалі ў суседняй Украіне. Гэта звязана з тым, што там лепш займацца бізнесам?**

— Мяне ўразіла ва Украіне, што там людзі, якія працуюць у сельскай мясцовасці, жывуць вельмі добра ў адрозненне ад нас. Людзі валодаюць паямі, а пай нельга прадаваць. Я неяк прыехаў у адну вёску. Там два чалавекі, у іх два паі — па 2 тоны зерня і па 2 пляшкі раслiннага алею. Трымаюць вялікую гаспадарку і, як кажуць, чыхалі і плявалі на ўсё. Хочаш працаваць механізатарам, то можаш працаваць, і заробак будзе не такі, які быў у калгасе. Ва Украіне ўсе нашы землякі кажуць, што там бізнесам займацца — абсалютна іншая справа. Ва ўсялякім разе, там гэта бяспечная справа, а тут, у нас, — самі ведаеце.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ЭМИГРАНТЫ**



### *Людмила КАРПЕНКО:*

## «Внука назвали Даниэлем»

*Непредсказуемо сложилась жизнь Людмилы Карпенко. Могла стать первой леди страны, а стала вдовой и изгнанницей, нашедшей приют в Германии. Ее муж, Геннадий Дмитриевич Карпенко, был одним из уважаемых политиков, душой и сердцем радевшим за демократическую Беларусь. К сожалению, при загадочных обстоятельствах умер в расцвете лет.*

*Обстоятельное интервью с Людмилой Карпенко читайте в январских номерах "Народной Воли". А сегодня поздравим ее с рождением в этом году еще одного внука.*



— Я считаю, что Новый год — это семейный праздник, поэтому мы всегда собираемся вместе всей семьей, — *говорит Людмила Филипповна*. — Сейчас я во Франкфурте у дочери. Моей внучке Анастасии исполнилось 14 лет, она в гимназии занимается, очень хорошая девочка...

Сын присоединится к нам за несколько дней до Нового года, и праздники мы проведем вместе. Кстати, у сына в этом году родился сын — 7 января ему уже годик будет. Внука назвали Даниэлем. Это было самое приятное событие этого года. У меня три внучки, а тут внук, продолжатель рода Карпенко!..

**Марина КОКТЫШ.**

### *Аляксандр КАЗУЛІН:*

## «Чакаю ад 2013 года толькі добрага»



**Былы рэктар Белдзяржуніверсітэта Аляксандр Казулін уварваўся ў палітычную прастору Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года. Харызматычны, смелы і бескампрамісны Казулін заплаціў дарагую цану за свой удзел у прэзідэнцкіх выбарах: 5,5 года турмы за быццам бы арганізаваныя на вуліцах Мінска беспарадкі, 53-дзённая галадоўка ў турме з мэтай дамагчыся разгляду беларускага пытання ў Савеце Бяспекі ААН (сваёй мэты палітык дабіўся, але здароўе падарваў). У турме Казулін правёў 2 гады 1 месяц і пад ціскам Еўропы і ЗША быў выпушчаны на волю. З турмы Аляксандр Казулін вярнуўся, лічы, у пустую кватэру — яго любімая жонка Ірына памерла ад раку 23 лютага 2008 года.**

**Апошнім часам голасу палітыка Казуліна амаль не чуваць. Ён адмаўляецца ад інтэрв'ю. Але мы напярэдадні святаў усё ж датэлефанаваліся да яго.**

**— Аляксандр Уладзіслававіч, што пажадаеце чытачам "Народнай Волі" ў новым 2013 годзе?**

— Трэба разумець, што надыходзіць новы час. У яго трэба верыць. Яшчэ было б нядрэнна гэтаму садзейнічаць.

**— А сабе што пажадаеце?**

— Нармальна, спакойна дайсці да лагічнага завяршэння.

**— У сэнсе? Лагічнага завяршэння палітычнай кар'еры?**

— Я калісьці ўжо казаў, што галоўнае — гэта не знешняе, а ўнутранае. Калі чалавек хоча нешта змяніць, ён павінен пачынаць з самога сябе. Самае галоўнае — разабрацца ў самім сабе, зразумець сябе. І калі ў нейкай ступені зможаш гэтага дасягнуць, далей пачынаецца іншае жыццё. Пытанне толькі ў тым, што перамагчы самога сябе нашмат складаней, чым здаецца... Лагічнае завяршэнне — гэта каб унутраны свет стаў галоўным. Тады і свет знешні выбудуецца і стане іншым...

Напярэдадні навагодніх свят усе абмяркоўвалі надыходзячы канец свету, прадказаны племем майя. Многія скептычна ставяцца да гэтага прадказання. А на самай справе адбываюцца вельмі вялікія энергетычныя змены ў сусвеце, якія большасць людзей проста не заўважае. І цалкам магчыма, што прароцтва майя тычыцца нейкай падзеі, якая павінна змяніць ход гісторыі. Канец свету — гэта завяршэнне ўсяго старога і пачатак новага. Новыя энергіі прымусяць людзей альбо канчаткова перайсці на бок святла і дабра, альбо канчаткова загубіць саміх сябе. І Беларусь гэта таксама не абміне, тым больш што наша краіна ў сваім развіцці за апошнія 18,5 года падыходзіць да крытычнай кропкі. Думаю, новы час, новая энергетыка будуць спрыяць зменам у нашай краіне.

**— Акрамя таго, што вы заняліся сваім унутраным светам, чымсьці яшчэ займаецеся? Усё ж такі вы былі адным з яркіх палітыкаў найноўшай гісторыі Беларусі.**

— Раней мяне хвалявала грамадская думку, цяпер не. Але мяне хвалюе будучыня Беларусі. Калі б не хвалявала, я б ужо даўно з'ехаў з краіны.

**— Аляксандр Уладзіслававіч, а якая падзея ў найноўшай гісторыі Беларусі, у вашым жыцці самая значная?**

— Думаю, яна яшчэ наступіць. Але гэтая падзея павінна быць значнай у жыцці кожнага канкрэтнага чалавека... Змены адбываюцца тады, калі тая частка насельніцтва, якую можна назваць народам, усведамляе, што далей так жыць немагчыма, таму што разбураюцца фундаментальныя асновы жыцця. А мы дайшлі да крытычнай кропкі свайго падзення — дэградацыя назіраецца ва ўсім беларускім грамадстве. Праўда, народ пакуль не крычыць, што далей так жыць нельга. Але, думаю, засталося нядоўга да той пары, калі гэтыя крыкі будуць чутны, калі ўзнімецца ўнутранае "я" беларусаў і людзі зразумеюць увесь жах свайго становішча, у які яны свядома самі сябе загналі.

**— Дзе будзеце сустракаць Новы год?**

— Пакуль яшчэ не вырашыў. Але чакаю ад гэтага года толькі добрага.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**



### *Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*

## Там, за горизонтом...

Рост ВВП Беларуси за 11 месяцев замедлился до 2%, но уже в I квартале нового года он разгонится до 8—9%, а инфляция снизится к концу года до 12%. Если верить высоким чиновникам, то зарплата среднего белоруса достигнет в следующем году уже не 600, а 700 долларов, а в Витебской области — 750 долларов. А если, мол, посчитать нашу зарплату по паритету покупательной способности, то она уже 1200 долларов и не меньше, чем в России (кто бы знал, что это за паритет?).

Бальзамом льются на душу и другие прогнозы властей предержащих. Россия нам дает кредит в 2 млрд долларов, Китай отвалит 1 млрд долларов, причем несвязанного кредита (чистой валютой). Россия даст нам нефти, сколько попросили — 23 млн тонн. Торговый баланс будет однозначно положительным.

Такие вот пропагандистско-пиаровские "новогодние подарки" нам приподносят те, кто рулит страной. Только большинство белорусов давно осознает, что мы живем в бедном по европейским меркам государстве. Поэтому подобные реляции лишь раздражают.

Но несколько крупных положительных моментов в белорусской экономике в истекающем году не грех и отметить. Прежде всего это блестящая комбинация с растворителями-разбавителями (хотелось бы знать автора), которая позволила вмиг вывести торговый баланс страны в плюс. Благодаря ей, возможно, в целом по итогам года положительное сальдо и удержится, но вряд ли большое. 2012 год еще унаследовал достаточно жесткую денежно-кредитную политику, которую стал проводить с середины 2011 года Нацбанк. Это позволило в конечном итоге серьезно затормозить инфляцию: со 108,7% в прошлом году до 20,1% с начала уходящего года. Если учесть, что инфляция прогнозировалась 19—22%, то можно считать, что по данному важному параметру задание выполнено. На наш взгляд, это дорогого стоит. Нацбанк зафиксировал ставку рефинансирования еще 12 сентября 12% и больше ее не трогал (хотя задание было выйти с ней к концу года, как помнится, на 20—23%). И правильно сделал. Можно только догадываться, какое давление выдержала председатель Нацбанка Н.Ермакова со стороны правительства и директората госпредприятий с требованием удешевить кредиты. Но в отличие от предыдущих руководителей главного банка показала характер. Это во многом предопределило относительную финансовую стабильность, с которой экономика Беларуси входит в наступающий 2013 год. Здесь можно согласиться с утверждением властей, что после Нового года никакой девальвации по типу 2 января 2009 года (на 20,5%) не будет. Обменные курсы белорусского рубля сравнительно стабильны. К тому же и золотовалютные резервы сохранены в размере 8 млрд долларов.

Однако существует опасность, что монетарная политика Нацбанка может вновь постепенно размягчиться. Так, к концу года нарастает дефицит ликвидности коммерческих банков: у них недостает рублевых ресурсов. Главный регулятор вынужден дополнительно вбрасывать в каналы денежного обращения сотни миллиардов денежных средств. На недавно проведенном аукционе он выдал трем коммерческим банкам 920 млрд кредитных рублей. Удвоился спрос на валюту на бирже со стороны юридических лиц. Население продолжает покупать валюты существенно больше, чем продавать. Министерство финансов, чтобы выманить валюту у населения, а заодно хоть что-то наскрести для погашения внешних долгов в следующем году, 20 декабря приступило к размещению государственных облигаций в валюте на сумму 50 млн долларов.

Поэтому сохранится ли эта относительная финансовая стабильность на протяжении всего 2013 года — вот вопрос, который будоражит умы наших и зарубежных экспертов. Рожденный в недрах исполнительной власти и, следовательно, директивный показатель роста ВВП в 8,5% (думается, автор известен) после того, как экономика страны оказалась близка к стагнации, не вписывается ни в какие ворота. Экономисты так называемого негосударственного сектора единодушно признают: для такого роста отсутствуют источники. После возвращения в лоно государства кондитерских предприятий политика деприватизации продолжилась. Подобные методы применяются уже к ОАО "Луч", в наблюдательные советы открытых акционерных обществ без доли государства вводят уполномоченных его представителей. С такой политикой огосударствления крупных предприятий, демонстративного вмешательства государства в любой сектор экономики рассчитывать на приход солидных зарубежных инвесторов как фактор экономического роста не приходится. Модернизация белорусских предприятий с упором на административные рычаги, как показали последние события на предприятиях концернов "Беллесбумпром" и "Беллегпром", связанные с посещением их главой государства, скромно говоря, тормозится или вовсе проваливается. Невозможно представить, к примеру, чтобы президент США Обама или президент Франции Олланд наведывались на предприятия, устраивали разнос, снимали с должности руководителей. Там предприятия главным образом частные, постоянно находятся в конкуренции друг с другом, и плохая работа заканчивается в итоге банкротством.

У нас же все решает государство. Реальные денежные доходы населения за январь—октябрь по сравнению с аналогичным периодом 2011 года выросли на 18,1% — то есть на 10 с лишним процентов больше, чем увеличивалась производительность труда. Подозревая, что властями для разогрева экономики и ускорения роста ВВП может быть включен традиционный печатный станок, аналитики МВФ прямо заявили, что рост ВВП на 8,5% и инфляция 12% — недостижимые, взаимоисключающие друг друга показатели. Вообще, к двухзначной инфляции белорусы давно привыкли. Лишь в отдельные годы (например, 2006-й) она была ниже 10%. Мы редко кому в СНГ уступали лидерство по этому показателю. Сегодня, к примеру, в России с декабря 2011 года по ноябрь 2012-го цены потребительского рынка выросли на 6%, в Казахстане — на 5,3%. Годовая инфляция в Евросоюзе составила 2,4%. Зато в нашем клубе такие страны, как Венесуэла, где в 2011 году инфляция отмечена в 27,6%, Иран с 21,8%, Уганда — 27%.

Сомнения специалистов МВФ, других экспертов в заявленных правительством важнейших показателях развития белорусской экономики основываются и на том, что в 2013 году Беларуси необходимо выплатить по внешним долгам сумму вдвое большую, чем в году уходящем. Можно не сомневаться в одном: что Антикризисный фонд ЕврАзЭС выделит нам все оставшиеся транши кредита. Россия всегда поможет в силу своих геополитических интересов. В конце концов, у нее порядка 500 млрд долларов золотовалютных резервов. По некоторым данным, она уже простила 4,7 млрд долларов долга Алжиру, 4,5 млрд — Ливии, 8 млрд — Ираку, по 10—11 млрд долларов — Монголии, Афганистану, Вьетнаму и Сирии. О Кубе — и говорить не приходится. Белорусские долги России могут быть легко списаны, и понятно, какой ценой. Стратегическая цель российского руководства — включить Беларусь в состав России — остается неизменной. Нам остается лишь надеяться, что этого не произойдет ни в следующем году, ни в последующие годы, ни вообще.

А если надежды не сбудутся? На этот вопрос, читатели, отвечайте сами.

**12 чалавек, якія міжнароднай супольнасцю і беларускімі праваабаронцамі прызнаны палітзняволенымі, сустракаюць 2013 год за кратамі.**

**Гэта Ігар Аліневіч, Мікалай Аўтуховіч, Алесь Бяляцкі, Яўген Васьковіч, Зміцер Дашкевіч, Мікалай Дзядок, Эдуард Лобаў, Васіль Парфянкоў, Арцём Пракапенка, Павел Севярынец, Мікола Статкевіч, Аляксандр Францкевіч.**

**Пажадаем ім здароўя і цярпення! 2013 год павінен стаць годам іхняга вызвалення.**

## Пётр САДОЎСКІ:

# «Людзі прамаўчалі...»

*Ён можа доўга расказваць, якімі былі першыя крокі нашай краіны на шляху ў Еўропу, бо ў той час працаваў паслом Беларусі ў Германіі.*

*Адначасова ён можа расказаць і пра тое, якімі былі першыя крокі нашай краіны на шляху да аўтарытарызму. Бо ў 1995 годзе ўдзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якая скончылася жорсткім разгонам — ці не першай сілавой акцыяй, здзейсненай пры праўленні першага беларускага прэзідэнта.*

*"Народная Воля" папрасіла **Пятра Вікенцьевіча Садоўскага** ацаніць апошнія 20 гадоў у гісторыі краіны.*

**— Якую падзею за апошнія дзесяцігоддзі вы лічыце асабліва важнай для себя асабіста і для краіны? Чаму?**

— Доўга думаў. Ёсць нейкае адчуванне бясчасся. Як бы нічога не дзеецца. Хіба што крывавая Плошча. Гэта шматзначны ўрок усім. Натхняюць постаці Паўла Севярынца, Міколы Статкевіча, Сяргея Каваленкі. Я сам, на жаль, як большасць... Мой штодзень — дробненькі.

**— Чаму ў 1995 годзе вы прынялі рашэнне ўдзельнічаць у галадоўцы дэпутатаў? Як ацэньваеце тыя падзеі сёння?**

— Тактычна гэта быў слушны крок змагарнай меншасці. З маральнага боку: здрада аднадумцу ў момант ісціны — гэта не па-хрысціянску. Хто тое здзеіў — маральна памёр. Таму і ўдзельнічаў. Расправа з дэпутатамі — гэта была першая палітычная акцыя нашай дыктатуры. Людзі прамаўчалі. Так было ў Германіі ў гарадскім савеце Браўншвайга ў 1933 годзе. Дэпутатаў вядуць пад рукі, а натоўп глядзіць. Ёсць гістарычны здымак.

**— Пётр Вікенцьевіч, калі б можна было вярнуць час, ці ўдзельнічалі б у галадоўцы ў Авальнай зале?**

— Безумоўна удзельнічаў бы. Я ўжо тлумачыў маральную матывацыю. Здрада братэрству — самае гнюснае. Тактычна, канешне ж, трэба было б рыхтаваць групы падтрымкі, каб людзі вайшлі на Плошчу. Поспех таго нашага імпульсу ў кароткай перспектыве быў відавочны: галасаванне не праходзіла. Дальняя перспектыва не спраўдзілася, бо не атрымалася падтрымка грамадзянскай супольнасці. Але ж папярэдняя падрыхтоўка зліквідавала б фактар нечаканасці. Паўтараю, маральна мы зрабілі, што мусілі зрабіць.

**— Ці ведаеце, як склаліся лёсы тых дэпутатаў, якія таксама ўдзельнічалі ў тым пратэсце?**

— Лявонцій Зданевіч — паспяховы архітэктар. Уладзімір Заблоцкі мае неблагі бізнес. Алесь Шут, як і раней, — галоўны доктар Лагойскай бальніцы. Летам сустрэў яго ў чарзе па візу ў італьянскае пасольства. Мікалай Крыжаноўскі дзесьці ў дзяржаўнай установе працуе. Леанід Дзейка — пенсіянер. Самаадукуецца невераемна. Думаю, быў бы чэмпіёнам РБ па красвордах сярод палітычных фігур. Пра Алампіева, Антончыка, Маркевіча, Гюнтэра, Аксаміта, на жаль, на сёння не маю дакладных звестак. З нашых скурвіўся адзін Яўген Новікаў, які пачаў вяшчаць, як крумкач, на БТ. Валодзя Новік не галадаў. Ціха стаў адным з намеснікаў старшыні "Беларусбанка". Навумчык, Трусаў, Беленькі, Папкоў, Голубеў (абараніў доктарскую), Баршчэўскі, Пазьняк — на слыху ў тых, хто цікавіцца грамадскім жыццём. Я — пенсіянер. Маё хобі — як у рымскага імператара Дыяклетыяна. Але лепш атрымліваюцца агуркі. Варта б нам, галадоўшчыкам, калі-небудзь сустрэцца. Давайце сустрэнемся ў вас у рэдакцыі!

**— Вы былі першым амбасадарам Беларусі ў Германіі. Ці праўда, што Еўропа нас не чакае?**

— Пытанне — з алагічных прапагандысцкіх заклінанняў. Таму кароткі адказ у форме "так/не" будзе таксама некарэктным. Але калі ўжо трэба адказаць, то, канешне ж, няпраўда.

**— Ваш прагноз: як будуць развівацца палітычныя падзеі ў Беларусі?**

— Не бяруся сказаць нешта пэўнае. Грамадзянская супольнасць пакуль будзе набірацца сіл, як наш казачны Пакацігарошак. Думаю, усё будзе залежаць ад здароўя А.Г.Лукашэнкі, на якое вельмі паўплывае хада падзей у расійскім істэблішменце. Зрэшты, нават наступнік Лукашэнкі (гэта ж будзе нехта не вельмі ашалелы з наменклатуры) на першым этапе нічога крута не зменіць. Гэта будзе які-небудзь, напрыклад, былы міністр кшталту Мартынава, які хаця і служыў гэтай уладзе, але мае імідж адэкватнай асобы і абсалютна блізкі да Крамля. А далей — могуць быць і нечаканасці. Адмашка на старт аперацыі "Пераемнік" можа быць дадзена толькі пасля адпрацоўкі міфа пра ўстанаўленне сапраўднага галоўнага забойцы зніклых палітыкаў, калі "забойца" ўжо будзе ўцёкшы за мяжу.

**— Кажуць, што пад Новы год трэба загадваць жаданні. Што загадаеце?**

— Каб зіма добрай выдалася...

### З АРХІВА

11 красавіка 1995 года 19 дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце прама ў Авальнай зале абвясцілі галадоўку пратэсту супраць ініцыяванага Аляксандрам Лукашэнкам рэферэндуму аб скасаванні бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня" як дзяржаўных сімвалаў, ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і праве прэзідэнта распускаць парламент.

У ноч з 11 на 12 красавіка дэпутаты былі збіты людзьмі ў чорных масках і выкінуты з парламента. Аляксандр Лукашэнка абяцаў паказаць відэазапіс гэтага разгону. Але і праз дзесяцігоддзі грамадскасць гэтага запісу так і не ўбачыла.

**Алена ДАВЫДАВА.**



**Зянон Пазьняк, Лявонцій Зданевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Ігар Гермянчук, Сяргей Папкоў, Алег Трусаў, Сяргей Навумчык, Лявон Баршчэўскі, Сяргей Антончык, Алесь Шут, Пётр Садоўскі, Валянцін Голубеў, Віталь Малашка, Юрый Беленькі. У прэзідыуме старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб і ягоны намеснік Іван Бамбіза. У куце злева — Аляксандр Лукашэнка. Раніца 11.04.1995 года.**

**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

ДАСЛОЎНА

## Аляксандра ГЕРАСІМЕНЯ: «Нам не хапае каранёў...»

*І ўсё ж не такое ўжо згубленае новае пакаленне беларусаў, чыё станаўленне прыйшлося не на самыя лепшыя для краіны гады. Прызёр лонданскай Алімпіяды Аляксандра Герасіменя, адказваючы на пытанні чытачоў газеты "Прессбол", выказалася і пра беларускую сімволіку, і пра тое, які геапалітычны вектар ёй бліжэй.*



**— Які сцяг вам бліжэй: чырвона-зялёны ці бел-чырвона-белы? — спыталі ў знакамітай беларускай плыўчыхі.**

— З пункту гледжання эстэтыкі бел-чырвона-белы, вядома, больш сімпатычны. Ды і гісторыя ў яго куды больш багатая і насычаная — Вялікае Княства Літоўскае, Наваградак, Мір, Нясвіж, той жа Клецк. Мне не хочацца думаць аб тым, што Беларусь вядзе адлік ад 1917 года і ганарыцца тым, што мы — чэмпіёны свету па колькасці вуліц Леніна, Маркса, Энгельса і яшчэ бог ведае каго... У нашай гісторыі ёсць нямала слаўных дат, і давайце не будзем забываць, што ў свой час ВКЛ было адной з самых уплывовых дзяржаў Еўропы.

...Шкада, што мы ўпусцілі ініцыятыву і літоўцы лічаць сябе нашчадкамі той вялікай дзяржавы. Нам не хапае каранёў, каб адчуць сябе вялікай нацыяй, а генетыка — вялікая штука, якая творыць цуды нават праз стагоддзі.

**— Які геапалітычны вектар Беларусі вам бліжэй — Расія ці Захад?**

— Еўропа, вядома. Мы адтуль ментальна. Расія хай цягнецца за намі, ёй не пашкодзяць агульнапрынятыя каштоўнасці цывілізаванага свету. Я маю на ўвазе так званы "закон Дзімы Якаўлева" (якім забаронена ўсынаўленне расійскіх дзяцей грамадзянамі ЗША). Магу шмат што сказаць з гэтай нагоды, як чалавек эмацыянальны і не па чутках знаёмы з дзецьмі-інвалідамі. Цікава адно: як гэтыя дэпутаты, што адным націскам кнопкі пазбавілі надзеі тысячы расійскіх дзяцей, будуць глядзець у вочы ўласным дзецям? Ды і наогул, чаму іх дзецям можна і нават трэба вучыцца ў ЗША, а тым, хто бяспраўны, нямы і безабаронны, не даецца нават маленькага шанцу на іншае жыццё?

## Рыгор БАРАДУЛІН: «Яго не хапае...»

На жаль, у апошнія гады мы вымушаны з трывогай сачыць за здароўем аднаго з волатаў Беларушчыны — **народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна**. Гады да ўсіх нас бязлітасныя, і для дзядзькі Рыгора справай звыклай зараз сталі бальніцы. Але напярэдадні святаў мы заспелі Рыгора Барадуліна дома. Яму цяжка гаварыць, але аб тым, што набалела за апошнія гады, слынны паэт выказаўся.

— Цягам апошніх 20 гадоў знішчалася ўсё беларускае. Сыход беларускага кантэксту з нашага грамадства адбываецца паступова ўвесь час. Гэта самае балючае. Зразумела ж, што калі няма мовы, дык няма і свядомасці, няма і дзяржавы.

Мы шмат каго страцілі за гэты час. Для мяне асабіста і для нашага народа адчувальна смерць Васіля Быкава. Ён быў маяком, апорай у справе дэмакратызацыі Беларусі. Яго цяпер вельмі нам не хапае.

ЧУЛІ?

## Вось такі падарунак

Урад Беларусі прыняў рашэнне павысіць з 1 студзеня 2013 года тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі. Павышэнне закране тарыфы на цеплавую энергію, якія вырастуць на 5%, і на электрычную — на 9,5%. Для сям'і з трох чалавек, якая пражывае ў тыповай двухпакаёвай кватэры, плацяжы за жыллёва-камунальныя паслугі вырастуць на 8,9 тысячы рублёў, або на 3,7%, паведамілі ў Саўміне. Паводле разлікаў урада, яны складуць у ацяпляльны перыяд 249,6 тысячы рублёў, у летні — 167,2 тысячы рублёў.

ГОЛАС НАРОДА

## Пётр Іванавіч ХРЫПАЧ, фермер з вёскі Слабада Мінскага раёна:

# «На тым стаю і ў тое веру»

— Што ўсцешыла за мінулыя два дзесяцігоддзі? Ну і пытаннечка — так адразу і не скеміш... Але як наўскід, то найвялікшая радасць, канечне, мой сад... Ну, уяві сабе: два дзесяцігоддзі таму на месцы, дзе зараз стаім, ні каліўца не расло — адно пустэльныя пагоркі, скрозь нашпігаваныя драцянікам... 33 гектары зямлі — і нікому не ў радасць. А чаму? Глеба неўрадлівая, бедная, забытая Богам і людзьмі... Але ж вочы баяцца, а рукі за справу хапаюцца. Гэтак і ў мяне: аформіў сваё фермерства ды закасаў рукавы, балазе моцы хапала — тады і пяцідзесяці не было. І вось вынік — цудоўнейшы сад пад бокам у сталіцы. Сёлета сабраў звыш ста тон першасортных пладоў. Рэалізоўваю пераважна ў Кастрычніцкім раёне — у школьныя сталовыя, у садкі дзіцячыя, у прадуктовыя крамы... Праз якія два-тры гады выйду на трыста тон...

**— Пётр Іванавіч, а што не ў радасць? Што вас засмучае — як чалавека і грамадзяніна?..**

— Тое, што ў грамадстве няма ладу, што беларусы падзелены на сваіх і чужых... А гэтак не павінна быць. Раней думалася: ну вось і дзяржаўнасць сваю маем, цяпер зажывём як мае быць. Але не ўсё так гладка, як хацелася б. Значыцца, трэба шукаць нейкае паразуменне, а не раз'ядноўвацца. Не варта думаць, што мы разумнейшыя за ўсю Еўропу, што выштукарым свой унікальны веласіпед. Ды нічога падобнага! Трэба разумна карыстацца тым, што ўжо вынайдзена, — дэмакратычнымі нормамі, агульнапрынятымі ў цывілізаваным свеце правіламі. Не ведаю, але мне здаецца, што цяперашні палітычны вэрхал — часовая з'ява. Рана ці позна Беларусь арганічна ўвальецца ў еўрапейскую сям'ю — іншае наўрад ці дадзена...



**— Якім вам бачыцца жыццё ў наступнае дзесяцігоддзе, Пётр Іванавіч?**

— У сям'і еўрапейскіх народаў, у згодзе з краінамі-суседзямі. Не думаю, што народ з такімі багатымі культурай і гісторыяй страціць сябе, сваю нацыянальную адметнасць. Іншая справа, што ўсё гэта трэба берагаць і развіваць, а не глуміцца над ім. Па сваіх унуках ведаю, наколькі ім блізка сваё, хоць яны і нашмат бліжэй да той жа Еўропы чым наша пакаленне. Адно ніяк не шкодзіць другому: родная мова ніяк не ўпоперак той жа рускай ці іншым еўрапейскім мовам. Што ж адносна будучыні, то, канечне, яно бачыцца заможным і свабодным — на тым стаю і ў тое веру.

**Распытваў Георгій ЧЫГІР.**

## Инесса ДРОБЫШЕВСКАЯ: «Если бы все получилось, сегодня Беларусь была бы иной»

*Первого министра здравоохранения независимой Беларуси Инессу Дробышевскую за глаза называли подругой Александра Лукашенко. В историческом августе 1991 года вместе с коллегами по депутатскому корпусу Верховного Совета 12-го созыва Александром Лукашенко и космонавтом Владимиром Коваленком она вносила бело-красно-белый флаг в Овальный зал. Говорили, что, мол, по дружбе, придя к власти, Лукашенко отдал ей пост министра здравоохранения.*

*Сегодня Инесса Михайловна на заслуженном отдыхе, как говорит сама, занимается семьей. Почему ушла из активной жизни и политики, объясняет коротко: "Так сложились обстоятельства". А еще экс-министр здравоохранения признается, что является постоянной читательницей "Народной Воли".*

— Желаю "Народной Воле" как можно больше подписчиков в новом году, — кажется, Инесса Михайловна нисколько не удивилась нашему телефонному звонку. — Желаю, чтобы тираж рос, потому что сегодня это одна из самых популярных газет Беларуси. Ее читают абсолютно все, в том числе и представители власти, госструктур.



Когда я жила в городе, выписывала "Народную Волю". Сейчас перебралась за город, оформлять подписку неудобно, поэтому читаю ваш сайт в интернете, когда выбираюсь в столицу, покупаю свежий номер газеты.

**— Из медицины тоже ушли?**

— К сожалению, да.

**— Инесса Михайловна, в свое время вы оказались в центре самых важных событий, которые переживала наша страна. Вспоминаете о них сейчас?**

— Это забыть невозможно. Например, я была участницей заключения постбеловежских соглашений, когда в Алма-Аты подписывались конкретные документы и Горбачев уходил с поста президента. Эта была очень интересная работа и одновременно напряженная, ответственная. Нам приходилось ночами работать. Мы были в одной команде — Петр Кузьмич Кравченко, тогдашний министр иностранных дел, Вячеслав Францевич Кебич, Станислав Станиславович Шушкевич. В рядах нашей делегации были Гончар, Пазьняк, Борщевский.... Невозможно забыть путч, когда некоторые политики прятали "свои клювы", а некоторые, наоборот, проявляли принципиальность. Время было тревожное и этим интересное.

**— 1996 год развел вас по разные стороны. Сейчас вы встречаетесь, например, с Шушкевичем?**

— Нет. Последний раз мы случайно встретились в поезде Минск—Санк-Петербург. Я тогда работала министром здравоохранения, возвращалась из командировки. Мы ехали в одном вагоне со Станиславом Станиславовичем, много разговаривали... В последнее время наши взгляды, подходы во многом не совпадали...

**— Не жалеете, что так получилось? Или вы считаете, что сделано все так, как хотелось?**

— Если бы все получилось, сегодня Беларусь была бы иной... Когда Беларусь обрела независимость, возможности у страны были огромные. И если бы...

**— Если бы что?**

— Если бы... Но стало так, как стало.

**— Может, это одна из причин, что вы сегодня вне политики?**

— Несомненно. Но это не предновогодний разговор...

Желаю всей редакции, читателям "Народной Воли" хорошего нового года! И здоровья. Это самое главное. Здоровье — это единственная ценность, которую не купишь, ничем не заменишь. Здоровье надо беречь и ко всему относиться философски: все пройдет, и это тоже.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

# Уладзімір Канаплёў гатовы ўсё паўтарыць

*Гэты чалавек уваходзіў, як кажуць, у "самае бліжэйшае кола". Сябра дзяцінства першага беларускага прэзідэнта спачатку стаў ягоным памочнікам, а потым узляцеў на самыя вышыні кар'ернай лесвіцы.*

*На пытанні "Народнай Волі" адказаў **Уладзімір Канаплёў**, былы спікер Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, зараз — кіраўнік Федэрацыі гандбола Беларусі.*

— Калі б вы ў мяне спыталі пра апошнія 36 гадоў, а не пра 20, то я б сказаў, што спачатку ў мяне нарадзіўся першы сын, а праз чатыры гады — другі. Гэта былі для мяне самыя значныя падзеі. А калі браць апошняе 20-годдзе, то гэта 1989-ы і асабліва 1994 год. У 1989 годзе я ўдзельнічаў у выбарах у Вярхоўныя Саветы БССР і СССР. Вельмі цікавыя былі падзеі. Тады было такое натхненне ў людзей! Мы з жонкай былі даўнімі чытачамі "Литературной газеты". Ужо тады ў артыкулах веяла ветрам перабудовы. Потым, калі быў Вярхоўны Савет 12-га склікання, усе ўважліва з цікавасцю сачылі за выступленнямі дэпутатаў, у тым ліку Аляксандра Рыгоравіча. А 1994 год стаў самым цікавым.

**— Вы тады акунуліся ў палітыку? Гэты год стаў пачаткам вашага кар'ернага росту на палітычнай арэне...**

— Палітык у нашай краіне насамрэч адзін. А тады ў нас быў лідар, мы яму дапамагалі. У нас была каманда. Былі розныя спадзяванні, але ў канчатковы поспех паверылі толькі пасля першай перамогі. Я тады ў палітыцы не разбіраўся зусім. Усё было ўпершыню.

**— А пасля выбараў былі моманты, калі здавалася, што нейкі крызіс пераадолець будзе немагчыма?**

— Ды не... Былі, наадварот, прыемныя моманты, калі я, напрыклад, ажаніў сваіх сыноў. Вельмі радаваўся, што ў мяне нарадзіліся ўнучкі, што дома ўсё добра.

**— Значыць, выбары 1994 года для вас засталіся самай яскравай падзеяй і такіх па значнасці ўжо не было?**

— Не зусім. Цяпер для мяне самая яскравая падзея — гэта тое, што наша мужчынская зборная па гандболе ўпершыню за апошнія 17 гадоў трапіла на фінальную частку чэмпіянату свету. Я гэтаму вельмі рады.

Я трапіў на абсалютна голае месца, усё было разбурана. Ігракоў раздалі, распрадалі... Дзякуй Богу, што на месцы застаўся Міранові. Сапраўдны гандбол трымаецца на добрых трэнерах. Мы на 99 працэнтаў вярнулі на радзіму тых, хто быў за яе межамі, і аднавілі страчаныя добрыя традыцыі. Спорт — гэта чалавечы фактар. Наш трэнер Юрый Анатольевіч Шаўцоў неяк сказаў мне: "Вось ёсць патэнцыял каманды. Вось ён у нас такі сёння. А чатыры гады таму ў нас быў такі патэнцыял у двукоссі, што мы не маглі выйграць у зборнай Кіпра. А цяпер мы сярод лепшых каманд свету". Мне б хацелася сказаць, што наша моладзь павінна быць больш патрыятычнай і не глядзець на сваю будучыню праз зялёныя паперкі. Каршакевіч, адзін з лепшых ігракоў, мне распавядаў, што, калі яны сталі чэмпіёнамі свету, ім падарылі па маленькім магнітафоне... І яны былі шчаслівыя.



**— Цяпер вы нешта змянілі б у сваім жыцці, калі б была такая магчымасць?**

— Калі крочыш у невядомасць, то заўсёды робіш шмат памылак, гэта непазбежна. Я, канешне, засцярогся б ад нейкіх памылак. Але ў асноўным я б усё паўтарыў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

НАДВОР'Е

## Сіноптыкі не абяцаюць беларусам казку на Новы год

*На Новы год чакаецца тэмпература, блізкая да нулявой адзнакі, паведаміла галоўны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Людміла Парашчук.*

З 16 лістапада па 25 снежня Беларусь знаходзілася ў палоне халоднага антыцыклону. "У аўторак, 25 снежня, атмасферныя франты і цыклоны пачалі перамяшчацца ўглыб кантынента, адціскаючы халоднае паветра за Урал. У краіне рэзка пацяплела", — распавяла галоўны сіноптык. Яна дадала, што калі перад выхаднымі тэмпература паветра была на 8—13 градусаў ніжэй за кліматычную норму, то цяпер яна на 2—6 градусаў вышэй.

У суботу, 29 снежня, сітуацыя крыху зменіцца — паветраныя масы пачнуць паступаць з поўначы Скандынаўскага паўвострава, злёгку падмарозіць. Тэмпература паветра ўначы складзе мінус 3—8 градусаў, месцамі пры працяглых праясненнях 9—11 градусаў ніжэй за нуль. Днём будзе ад 0 да — мінус 5. Істотных ападкаў не чакаецца, толькі ў асобных раёнах, у асноўным па поўначы, пройдзе невялікі кароткачасовы снег.

31 снежня паўночна-заходні вецер зноў зменіцца заходнім, паўднёва-заходнім, пачне паступаць больш цёплая паветраная маса. На большай частцы тэрыторыі чакаецца кароткачасовы снег, мокры снег, у асобных раёнах туман, слабы галалёд. Тэмпература паветра ўначы складзе ад 0 да мінус 5 градусаў, пры праясненнях да 7 градусаў марозу. У дзённыя гадзіны чакаецца ад мінус 3 да плюс 3 градусаў. Такі тэмпературны фон на 3—5 градусаў вышэй за кліматычную норму.

ГОЛАС СЯБРА

## Стэфан ЭРЫКСАН: «Ганарыцеся тым, што вы беларусы!»

*Пасол Швецыі ў Беларусі **Стэфан Эрыксан** сёлета не па сваёй волі пакінуў нашу краіну. Скандальны "плюшавы дэсант" быў толькі фармальнай нагодай для таго, каб дыпламата пазбавілі беларускай візы і права працаваць у Беларусі. Але, перажыўшы разам з намі поспехі і паразы апошніх гадоў, спадар Стэфан Эрыксан застаецца вялікім сябрам нашай краіны і працягвае сачыць за падзеямі.*

**— Часта можна пачуць, што сітуацыя ў Беларусі не мяняецца. Вы досыць доўга працавалі ў Беларусі. Ці сапраўды не заўважылі ніякіх змен?**

— Пытанне слушнае, я шмат думаў над гэтым... Часам можа сапраўды здавацца, што нічога не змянілася. Але, нават калі не бачна з першага погляду, усё роўна кожнае грамадства развіваецца. Вазьміце, напрыклад, хуткасць развіцця інтэрнэту за апошнія гады. Не буду аспрэчваць, што тут ёсць і адмоўныя бакі, якія мы адчуваем таксама ў шведскім грамадстве. Лёгкасць доступу да вялікай аўдыторыі, на жаль, не заўжды абуджае лепшыя якасці ў людзях. Мяне палохае той бруд і тая нянавісць, што часта выплываюць у інтэрнэце... Але я перакананы: тыя магчымасці, якія дае доступ людзей да альтэрнатыўнай інфармацыі, усё-такі пойдзе на карысць у тым ліку беларускаму грамадству. Інфармаваны чалавек больш здольны паводзіць сябе рацыянальна і менш схільны быць падманутым.

***— Чаму для вас было такім важным падкрэслена паважлівае стаўленне да ўсяго беларускага — ад мовы да падтрымкі амаль не вядомых мастацкіх калектываў?***

— Калі я нешта раблю, стараюся гэта рабіць грунтоўна і шчыра. Мабыць, не заўжды гэта ў мяне атрымліваецца, але было вельмі лёгка аддацца ўсім сэрцам Беларусі...



Як можна не любіць і не паважаць гэтую краіну з яе багацейшай гісторыяй і цікавейшай культурай! Калі я зразумеў, што маё паважлівае стаўленне да вашай прыгожай мовы нешта значыць для многіх беларусаў, я натхніўся яшчэ больш вывучаць вашу ўнікальную культуру!

**— Ці сапраўды сёння вядуцца нейкія патаемныя перамовы паміж Беларуссю і ЕС? Пра што яны?**

— На маю думку, гэта міф, што лёс вашай краіны вырашаецца ў выніку нейкіх патаемных перамоў... Не той час і не той выпадак! Канешне, ёсць кантакты, але дастаткова відавочна, што адбываецца ў нашых адносінах. І чаго не хапае. Не шукайце таго, чаго няма! Я добра разумею, што ў беларускай гісторыі было ўсялякае, у тым ліку нейкія важныя рашэнні прымаліся за спінамі людзей. Мабыць, таму і цяпер прасцей думаць, што ўсё вырашаецца не табою самім, а ў нейкіх кулуарных перамовах.... Не, будучыню краіны можаце стварыць толькі вы, беларусы!

**— Якія віншаванні вы хацелі б перадаць сваім беларускім сябрам і ўсім беларусам?**

— Я хацеў бы выкарыстаць момант, каб павіншаваць усіх беларусаў з надыходзячымі святамі! Пажадаць я хачу больш добразычлівасці адзін да аднаго ў новым годзе! Крытыкуйце іншых, але рабіце гэта прыстойна і без злобы. Калі і ёсць недаравальныя рэчы, дык хто возьме на сябе права іх асудзіць? Хібы шукаць трэба перш за ўсё ў самім сабе.

Магчыма, гэта прагучала пафасна, але мне бывае балюча глядзець, як у цяжкай для Беларусі сітуацыі замест таго, каб нешта разам пабудаваць і змяніць, быццам бы разумныя людзі займаюцца раздрабненнем грамадства... Паважайце адзін аднаго і шукайце кампрамісы дзеля краіны! Максімалізм тут не дапаможа, а зайздрасць увогуле толькі перашкаджае... Апошняе, што хачу пажадаць вам, гэта больш любові і павагі (і менш абыякавасці!) да сваёй культуры, гісторыі, мовы... Ганарыцеся тым, што вы беларусы!

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

НЕСПАКОЙНАЯ ДУША

# Руплівец...

*Жыццё не абмяжоўваецца Мінскай кальцавой. Але голас глыбінкі не заўсёды чутны. Меркаванне, што сапраўдны градус палітычных падзей можна адчуць толькі ў сталіцы, памылковае. Як доказ таму — **Уладзімір Дарагуш**, краязнаўца з Чэрвеня.*



**— Уладзімір Георгіевіч, з якім настроем развітваецеся з першым 20-годдзем беларускай незалежнасці?**

— Пад Новы год і Каляды не варта б пра змрочнае, але ж мушу, бо якраз такімі — змрочнымі — і выглядаюць мінулыя гады для маёй Бацькаўшчыны. Чаму? У краіне, якая нібыта стала незалежнай два дзесяцігоддзі таму, верхаводзяць пракрамлёўскія, пракамуністычныя вертухаі. Ну як яшчэ назваць людзей, якія не ведаюць ні гісторыі сваёй зямлі, ні культуры, ні роднай мовы, ні нават эканомікі?.. Прычым іхняя некампетэнтнасць мяжуе з несусветна дзікай агрэсіўнасцю ў адносінах да тых, хто спавядае беларускасць, хто імкнецца жыць у традыцыях, закладзеных нашымі дзядамі-прадзедамі, нашымі святымі, пачынаючы ад Еўфрасінні Полацкай... Неверагодна, але нават у 1930-я гады, калі сталінска-яжоўскі молах на ўсю моц гайдамачыў па Беларусі, мы не назіралі такога здзеку з роднай мовы. Дажыліся: у абласным цэнтры толькі адзін беларускамоўны клас, і ў тым класе — адна дзяўчынка... І напраўду — дзікае поле, дзікія норавы, вяршыня цынізму, здзеку з тытульнай нацыі. Такое хіба што ў Кнігу рэкордаў Гінеса занесці, але ж які сорам — на ўвесь свет. Мяне засмучае і адначасова шакіруе, што найбольш адукаваных, сумленных і патрыятычна дзейсных людзей арыштоўваюць, кідаюць у турмы, усяляк зневажаюць. Але яшчэ больш мяне здзіўляе, што народ усё гэта церпіць.

**— Уладзімір Георгіевіч, намаляваная карціна — сапраўды змрочная... Але ці бачыцца вам святло ў канцы даўжэзнага (па часе) тунэля?..**

— Якой бы чорнай ні была ноч, калі-небудзь яна абавязкова скончыцца. На змену ёй абавязкова прыйдзе раніца — светлая і, можа, нават сонечная. Хацелася б, каб як мага хутчэй... Ва ўсялякім разе спадзяюся, хоць мне і пайшоў 80-ы год, дачакацца тае раніцы. Ведаеце, некалькі гадоў таму я прыняў для сябе праграму: не толькі дачакацца перамен, але і пражыць у свабоднай, дэмакратычнай Бацькаўшчыне столькі гадоў, колькі я цярпеў гэты абрыдлы час.

**— Адна справа — чакаць перамен і зусім іншая — набліжаць іх...**

— Так, вы маеце рацыю, і я — наколькі хапае моцы — раблю ўсё, каб той светлы ранак настаў хутчэй... Які ўжо год вяду рэй у Чэрвеньскім мастацка-літаратурным клубе "Ветразь", актыўна ўдзельнічаю ў рабоце двух іншых клубаў — краязнаўчым і "Субяседніку". І з людзьмі сталымі, і з моладдзю наладжваем літаратурныя вечарыны, знаёмствы з беларускімі творцамі — паэтамі, музыкамі, краязнаўцамі. Канечне, выпраўляемся ў турыстычныя вандроўкі па Беларусі. Мэта ўсіх высілкаў адна — далучыць людзей да нашай культуры, літаратуры, да ўсяго, што ёсць гонар беларускай нацыі. Тут прыемнае спалучаецца з карысным. А галоўнае — душа не марнее, поўніцца жыватворным духам...

**— Ведаю, што ваша хатняя бібліятэка — адна з багацейшых у краі. Наколькі яна запатрабавана месцічамі?**

— Бібліятэка — гэта маё ўсё... Збіралася дзесяцігоддзямі, гэтаксама як і музычныя творы — што на вінілавых кружэлках, што на электронных носьбітах. Натуральна, людзі цікавяцца. Бяруць і чытаюць кніжкі — іх недзе больш за 20 тысяч, перапісваюць музычныя творы — ёсць досыць рэдкія запісы знакамітых выканаўцаў. Карацей кажучы, дзверы не зачыняюцца — нікому адмовы няма.

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Валянцін СТЭФАНОВІЧ: «Я вельмі хацеў бы, каб у 2013 годзе мы ўбачылі на волі ўсіх палітзняволеных»

*Аб падзеях года, які адыходзіць, і чаканнях у наступным "Народная Воля" гутарыць з праваабаронцам Валянцінам СТЭФАНОВІЧАМ.*

**— Перш-наперш хацелася б падсумаваць вынікі 2012 года... Якім ён быў для краіны, для праваабаронцаў?**

— Год не быў лёгкім, тэндэнцыя на рэпрэсіўную палітыку, якую ўлада прадэманстравала пасля 19 снежня 2010 года, працягваецца. Іншая справа, што сітуацыя ў нейкім сэнсе стабілізавалася. Я б назваў яе стабільна кепскай. Жорсткай канфрантацыі няма, але там-сям узнікаюць новыя крымінальныя справы. Адным словам, улады паказваюць, што ад сваёй палітыкі яны не адыходзяць, і ў гэтым годзе мы пабачылі розныя формы ціску на прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці. Гэта і прэвентыўныя затрыманні маладзёжных актывістаў, і абмежаванні ў выездзе за мяжу па абсалютна надуманых падставах... Але галоўнае — ніякім чынам не вырашылася пытанне палітзняволеных. Што тычыцца праваабаронцаў, то ўвага з боку ўлады да нас таксама не зменшылася. Падчас кампаніі назірання тую ж Таццяну Равяка выклікалі на "гутарку" ў КДБ, пазбавілася офіса ліквідаваная ў свой час "Вясна"... Але на працягу года мы сваю актыўнасць не змяншалі, працавалі ў межах назірання за выбарчай кампаніяй. Тыя задачы, што ставілі перад сабой, — выкананы.




**— Чым вам запомнілася прайшоўшая парламенцкая кампанія?**

— Тым, што была вельмі кволай. Складвалася ўражанне, што яна не цікавая нікому — ні тым, хто ў ёй удзельнічаў, ні тым, хто праігнараваў гэтае мерапрыемства. Гэта быў верх беларускай выбарчай сістэмы, бо ўсе і ўсё цудоўна разумеюць. Тыя, хто вылучаўся кандыдатамі ад улады, ведалі, што яны стануць дэпутатамі. Прадстаўнікі апазіцыі разумелі, што ў іх няма ніякіх шанцаў. А многія простыя людзі і наогул страцілі давер да нашых выбарчых працэдур. Да таго ж улада, як мне падаецца, пастаралася максімальна дэпалітызаваць выбарчы працэс, але гэта кій з двума канцамі. З аднаго боку, хацелі не дапусціць выступленняў на вуліцах (асабліва тых, хто заклікаў да байкоту), а з іншага — дэпалітызацыя прыводзіць да таго, што ў грамадстве знікае цікавасць да выбараў. А яўку трэба было забяспечыць. На жаль, мы не змаглі назіраць паўсюль, але былі зафіксаваны выпадкі з маніпуляцыямі па яўцы.

**— У "кволую" кампанію працаваць праваабаронцам было лягчэй?**

— З боку ўлад за некаторым выключэннем вялікіх перашкод для назіральнікаў, як ні дзіўна, не было. Уся асноўная актыўнасць улады, думаю, была накіравана на тое, каб не было агітацыі байкоту выбараў. Тым не менш назіранне прайшло, мы далі выбарам сваю ацэнку. На мой погляд, важна было і тое, што на выбарах прысутнічала місія АБСЕ.

**— Некаторыя эксперты рабілі прагнозы, што ў гэтым годзе ўсе палітзняволеныя выйдуць на свабоду, чаго, на жаль, не адбылося...**

— Так, былі нейкія пазітыўныя чаканні і надзеі, я таксама верыў у гэта. Спадзяваліся, што пасля парламенцкіх выбараў палітвязні выйдуць на волю, таму што ў выказваннях прадстаўнікоў улады нярэдка чулася аб неабходнасці рэфармавання палітычнай сістэмы, паляпшэння адносін з Еўрасаюзам... Шмат што казалася, але нічога не спраўдзілася. Такое ўражанне, што ўлада баіцца мадэрнізаваць нават сваю палітычную сістэму. Дык што казаць пра вызваленне "палітычных"? Некалькі чалавек, безумоўна, адпусцілі пасля напісання імі прашэння аб памілаванні, але далей працэс не пайшоў, і зараз усё застаецца на нейкім замарожаным узроўні. Кантакты з Захадам — мінімальныя. Хоць пытанне вызвалення палітвязняў галоўнае ў беларуска-еўрапейскіх адносінах.

**— Як вы ўжо казалі, у гэтым годзе колькасць палітзняволеных змянялася. Выпускалі адных, заводзілі крымінальныя справы на іншых. Чаму так адбываецца?**

— Ва ўлады было некалькі магчымасцяў вызваліць усіх палітычных, як кажуць, з захаваннем твару. Той жа Закон аб амністыі, калі б яго штучна не палітызавалі, распаўсюджваўся на многіх палітзняволеных. Але на гэта не пайшлі. І нават цяжка патлумачыць, чаму так. Магчыма, хочуць, каб усе палітвязні абавязкова напісалі прашэнні аб памілаванні. Аднак некаторым з іх змянілі ўмовы ўтрымання на больш жорсткія. А Зміцер Дашкевіч наогул асуджаны закрытым судом яшчэ і на дадатковы тэрмін, хоць зараз павінен быў ужо выйсці на волю. Гэта даволі небяспечная практыка, якая пры пэўных умовах можа быць распаўсюджана і на іншых. Мне падаецца, што такім чынам беларуская ўлада паказвае Захаду: вось, маўляў, глядзіце на нашы дзеянні, калі вы не будзеце рэагаваць на нашы крокі. Зараз, напрыклад, "завісла" крымінальная справа журналіста Андрэя Пачобута, і складваецца ўражанне, што палітычнага рашэння па ёй пакуль няма. Паглядзім, чым усё гэта закончыцца.

**— Як вы ставіцеся да выказванняў, што палітвязні — прадмет гандлю, час для якога пакуль не саспеў?**

— Думаю, сітуацыя і на самай справе больш залежыць ад знешнепалітычных фактараў, чым ад унутрыпалітычных. Мы ж бачым, што беларускае грамадства сёння знаходзіцца ў апатыі. Ніякіх масавых праяў салідарнасці народа з тымі ж палітзняволенымі не назіраем, хоць яны ёсць сярод палітычна заангажаванага кола людзей. І калі Беларусь атрымлівае эканамічную і палітычную падтрымку з боку Расіі, то магчымасці Еўрасаюза значна змяншаюцца. У свой час Крэмль правёў інфармацыйную атаку на афіцыйны Мінск, але, хутчэй за ўсё, толькі для таго, каб схіліць Беларусь да вырашэння спрыяльных для Расіі эканамічных пытанняў. Прынцыповай пазіцыі з боку Крамля не будзе. Тым больш што апошнім часам і ў самой Расіі з правамі чалавека — рэгрэс. І ў той жа час менавіта з Еўропай у Беларусі назіраецца рост эканамічных стасункаў. Таму Еўрасаюз Беларусі патрэбны. А значыцца, і праблему палітвязняў рана ці позна, але прыйдзецца вырашаць.

**— Адным словам, сёння Еўропа не можа аказаць уплыў на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Беларусі?**

— Я думаю, што ўсё ж такі нейкія рычагі Захад мае, калі зыходзіць з актыўных беларуска-еўрапейскіх стасункаў. Але мне неаднойчы даводзілася чуць ад еўрачыноўнікаў: "Вельмі цяжка працаваць, наладжваць кантакты з краінай, якая нічога не хоча". Беларусь — гэта такі выпадак. Я, напрыклад, не памятаю, каб хтосьці з прадстаўнікоў улады казаў, што краіна хоча стаць сябрам Савета Еўропы. І сапраўды — навошта? Тады ж трэба на сябе браць нейкія абавязацельствы, выконваць еўрапейскую Канвенцыю, прызнаваць кампетэнцыю Страсбургскага суда, уводзіць мараторый на смяротнае пакаранне. Пра гэта нават не заяўляецца. Краіна не ўдзельнічае ў цікавых еўрапейскіх праграмах, таму што ёй гэта таксама, напэўна, не трэба. Магчыма, адзінае, што цікавіць беларускі ўрад, — гэта еўрапейскія грошы. Пры гэтым атрымаць іх хочуць, практычна нічога не аддаўшы ўзамен. Маўляў, плаціце і ўспрымайце нас такімі, якія ёсць. З усімі недахопамі. А недахопы — гэта сістэмныя праблемы ў галіне правоў чалавека. Беларуская мадэль дэмакратыі. Але, як казаў герой Булгакава, асятрына не можа быць другой свежасці. Толькі першай. Так і з дэмакратыяй. Альбо яна ёсць, альбо яе няма.

**— Але ж вы самі сказалі: "Беларускае грамадства сёння знаходзіцца ў апатыі". Можа, людзям і на самай справе не патрэбны ніякія дэмакратычныя змены?**

— Не думаю, што гэта так. Хто вырашае, што хоча народ? Няхай ён сам аб гэтым скажа падчас свабодных выбараў. Свабодныя выбары — гэта, калі чалавек свядома прыходзіць на выбарчы ўчастак, каб выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю, а не тады, калі ён ледзь не пад прымусам ставіць "птушачку".

**— У гэтым годзе былі расстраляны Уладзіслаў Кавалёў і Дзмітрый Канавалаў, якіх прызналі вінаватымі ў здзяйсненні тэракта ў метро. Рэакцыя грамадства на вышэйшую меру пакарання таксама была неадназначная...**

— Многія людзі былі супраць смяротнага пакарання, таму што не вераць у беларускую судовую сістэму і праваахоўныя органы. Справа яскрава паказала, якія праблемы ў гэтых галінах. Таму што людзей расстралялі да разгляду наглядных скаргаў Вярхоўным судом. І зараз, калі ў Камітэце па правах чалавека ААН беларускія чыноўнікі матывуюць сваю пазіцыю не рэгістраваць той ці іншы зварот беларусаў тым, што быццам бы да гэтага людзі не прайшлі ўсе беларускія судовыя інстанцыі, гэта выглядае проста смешна. Справа Кавалёва і Канавалава паказала, што людзі пазбаўлены права на абскарджванне. Пра якую эфектыўную сістэму абароны правоў чалавека тады можна казаць? А ўвогуле, як мне падаецца, прыхільнікаў смяротнага пакарання ў нашай краіне больш. Але і мараторый трэба ўводзіць, бо іншага шляху, каб павярнуцца тварам да еўрапейскай цывілізацыі, няма. Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе застаецца гэтая ганебная норма.

**— З якім настроем вы ідзяце ў новы год? Якія прагнозы, чаканні?**

— Я вельмі хацеў бы, каб у 2013 годзе мы ўбачылі на волі ўсіх палітзняволеных, каб спынілася рэпрэсіўная машына. Гэта спрыяла б дыялогу ў грамадстве і на знешнепалітычным узроўні. Добра было б, каб мае аптымістычныя чаканні спраўдзіліся...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧТО У ЗОДЧИХ?

## Даже то, что «кристалл» попал в список самых уродливых зданий мира, не так уж и плохо...

*Каким был уходящий 2012 год для белорусских зодчих? Что за глобальные события произошли в архитектурной жизни нашей страны? Своими соображениями с "Народной Волей" поделился архитектор **Олег Овсянко**.*

Белорусские города регулярно "обрастают" новыми образчиками современной архитектуры. Порой мы даже не замечаем, как быстро меняется облик родных мест. Между тем собеседник "Народной Воли" **Олег Овсянко** отметил, что прошедший год не привнес ничего выдающегося в белорусскую архитектуру.

*— Когда мы говорим о белорусской архитектуре, то прежде всего вспоминаем Минск, ведь столица растет куда быстрее, чем областные центры,* — объяснил Олег Александрович. — *В 2012-м никаких существенных проектов закончено не было. Не удивительно — ведь идет активная подготовка к предстоящему чемпионату мира по хоккею, который должен пройти в Беларуси в 2014 году.*

*Разве что открытие трех новых станций метро Московской линии можно отнести к значительным успехам. Они современные и стильные, думаю, это то, что надо Минску. Мне кажется, коллеги согласятся, когда я скажу, что оформление станций превзошло наши ожидания. Правда, там до сих пор краской пахнет, но это даже неплохо — ощущение новизны усиливается.*



*Что касается зданий, то, пожалуй, стоит отметить офис Белорусской калийной компании. Это претенциозный и необычный проект. Он куда ярче многих новых зданий Минска и уж точно не сделает городской пейзаж скучным. Кстати, в отличие от нового здания Центрального автовокзала. Мне кажется, коллеги упустили шанс сделать что-то интересное...*

*Почти завершена реконструкция Купаловского театра. Пока еще сложно привыкнуть к новому облику этого знакомого с детства здания. Особенно почему-то тяжело воспринимать новый цвет. Давать какие-либо оценки пока рано, ведь перестройка не завершена. Будем надеяться, что перемены пойдут театру на пользу.*

Когда же речь зашла о самых знаковых архитектурных достижениях последних 20 лет, то господин Овсянко не сомневался ни минуты. Пальма первенства отошла "алмазу" Национальной библиотеки.

*— Это здание можно любить или ненавидеть, но равнодушным оно не оставит никого,* — рассудил архитектор. — *Мне кажется, даже то, что "кристалл" попал в список самых уродливых зданий мира, не так уж и плохо. По крайней мере туристы хотят на него взглянуть. Хотя, конечно, было бы приятнее, если бы они ехали к нам за красотами...*

*Признаюсь честно, я уверен, что самое значимое событие в жизни белорусской архитектуры еще впереди. У нас столько амбициозных проектов! Ну а двадцатилетний итог мировой архитектурной жизни подвести просто невозможно. За это время было построено столько выдающихся проектов, что перечислить их я, пожалуй, не возьмусь. Тот же город-сказка Дубай. Лучшие из лучших воплотили в жизнь свои фантастические проекты. Архитектурный рай вырос среди пустыни, и я сомневаюсь, что когда-нибудь еще нам доведется наблюдать такое шикарное строительство.*

**Мария МАЛЕВИЧ.**

ОТКРОВЕННО

## Вячеслав КЕБИЧ: «Я прожил красивую жизнь!»

*В январе наступающего года первый премьер-министр Республики Беларусь Вячеслав Кебич обещает презентовать вторую книгу своих мемуаров "Жажда власти".*

*— А что касается уходящего года, то у меня сплошные разочарования!* — говорит Вячеслав Францевич. — *Хотел что-то сделать, и все время не получалось! Поэтому откуда у меня могут быть какие-то радужные настроения?.. К тому же я понимаю, что кое-кто, видимо, меня уже списал, думая, что я не способен работать. А набиваться и напрашиваться я никогда не умел и не хочу этому учиться.*

*Что касается двух минувших десятилетий, то иногда, конечно, мне что-то удавалось сделать. В своей жизни я не разочарован. Нисколько! И честное слово, я прожил красивую жизнь! И даже смутные для меня времена вспоминаю как... борьбу со стихией. Когда побеждаешь стихию (а мне это чаще всего удавалось делать), чувствуешь себя удовлетворенным и счастливым. Прежде всего мне удалось победить стихию внутри себя, а это очень важно. Другой бы на моем месте уже сто раз опустил руки и сказал: "Ну все, хватит с меня!", а я до сих пор руки не опустил.*

*С годами, конечно, я стал мудрее. И примерно в половине ситуаций сейчас поступил бы совсем по-другому. Но это касается не личной жизни (здесь у меня все отлично), а политической. Кстати, скоро выйдет моя вторая книга, и вот там я как раз пишу о том, где с позиции сегодняшнего дня я поступил бы по-другому.*



*С Новым годом вас и всех читателей "Народной Воли"! Между прочим, я сам читаю газету от корки до корки, не пропускаю ни одного номера!*

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
28 СНЕЖНЯ 2012 г.

АСАБІСТАЕ

## Уладзімір КАНДРУСЕВІЧ:
# «Прадчуванне — таксама вельмі прыемнае пачуццё»

*Знакаміты кампазітар Уладзімір Кандрусевіч распавёў “Народнай Волі”, чым адметны для яго 2012 год і чаму з’яўленне на свет цудоўнай дзяўчынкі ён лічыць самай выбітнай падзеяй за апошнія два дзесяцігоддзі.*

Перш за ўсё мы задалі знакамітаму кампазітару самае распаўсюджанае перад Новым годам пытанне — чым запомніўся сыходзячы 2012-ы?

*— У 2012 годзе было шмат прыемных падзей, звязаных з маёй працай,* — падзяліўся Уладзімір Пятровіч. — *Нарэшце адзін з тэатраў узяўся за пастаноўку майго гістарычнага мюзікла, над якім я працую ўжо шэсць гадоў. Сюжэт вельмі цікавы, закранае часы Соф’і Гальшанскай і Ягайлы. Для мяне навіна аб пастаноўцы — адна з самых вялікіх удач гэтага года. Іншыя важныя падзеі таксама звязаны з маёй працай. Мы выпусцілі спектакль у Віцебскім абласным драматычным тэатры імя Якуба Коласа. Акрамя таго, сёлета да завяршэння набліжаецца праца над фільмам “Кіндэр-Вілейскі прывід”, да якога я напісаў музыку. Фільм па матывах “Кінтэрвільскага прывіду” Аскара Уайльда. Карціна — сучасны позірк на тэму. Прыгоды, як няцяжка здагадацца з назвы, адбываюцца ў нас у Вілейцы.*

*Можна сказаць, што год быў багатым на прыемныя падзеі, вынік ад якіх будзе заўважны пазней. Але, ведаеце, прадчуванне — таксама вельмі прыемнае пачуццё.*

Справаздачу за 2012 год спадар Кандрусевіч зрабіў лёгка. А вось прыгадаць, якая падзея стала для яго самай знакавай за апошнія 20 гадоў, кампазітару было цяжэй. Адказ атрымаўся нечаканым, але вельмі пяшчотным.

— *Мусіць, галоўнымі падзеямі за гэты доўгі тэрмін стала нараджэнне маіх унукаў,* — з усмешкай прызнаўся творца. — *У нашым родзе нарэшце з’явілася дзяўчынка! Яе завуць Марына, і ёй два гадочкі.*

*Ведаеце, у сям’і раней нараджаліся толькі хлопчыкі. У майго бацькі было восем братоў і толькі дзве сястры. Адтуль і ідзе наша гісторыя. У брата майго два сыны. У братоў, што ў Вільнюсе, таксама сыны. І ў стрыечных братоў у Польшчы сыны... Нараджэнне Марыны, мусіць, самая цудоўная падзея за апошнія дзесяцігоддзі. Бо дзяўчынка ёсць дзяўчынка. Яна такая пяшчотная, заўжды так шчыра радуецца пры сустрэчы, калі я саджаю яе на плечы... Так што лепшая падзея за апошнія 20 гадоў — нараджэнне ўнучкі!*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**



Уладзімір Кандрусевіч (у цэнтры) з сынамі.

ЧУЛІ?

## *2013 год абвешчаны ў Беларусі годам беражлівасці*



*Намеснік кіраўніка ўрада Анатоль Тозік прапанаваў пачаць яго з ліквідацыі вячэрніх школ.*

Віцэ-прэм’ер Тозік заявіў, што 2013 год можна было б пачаць з скарачэння выдаткаў у ахове здароўя, спорце, культуры і адукацыі. *“Па маіх разліках, у адукацыі, спартыўнай галіне да 25—30% бюджэтных сродкаў трацяцца зусім неапраўдана, у ахове здароўя і культуры — да 15%. Вось дзе, перш за ўсё, сродкі для павышэння заработнай платы, стымулявання добрасумленнай працы, умацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы гэтых галін”,* — заявіў Анатоль Тозік, які ва ўрадзе курыруе сацыяльную сферу.

*“Да гэтага часу ў якасці самастойных устаноў існуюць вячэрнія школы. Навошта? Чаму ў звычайнай школе нельга стварыць кансультацыйны пункт і адкрыць вячэрнія 10—11-я класы, дзе будуць працаваць настаўнікі гэтай жа школы? Акрамя таго, больш за 17% школ маюць менш за 50 вучняў. У некаторых школах настаўнікаў і абслугоўваючага персаналу больш, чым навучэнцаў. Працуюць больш за 300 класаў з адным вучнем, у тым ліку ў старшых класах. Кошт навучання ў такіх класах перавышае 300 мільёнаў у год, а ў звычайных класах поўнакамплектных школ — 7—8 мільёнаў. Вось дзе нашы рэсурсы”,* — заявіў віцэ-прэм’ер.

*“У рэспубліцы налічваецца 347 устаноў дадатковай адукацыі. На жаль, праца большасці з іх неэфектыўная і малавыніковая. Неабходна перайсці на праектнае фінансаванне такіх устаноў. Цалкам зжылі сябе вучэбна-вытворчыя камбінаты”,* — працягнуў Анатоль Тозік. І паведаміў, што з верасня 2013 года над сістэмай адукацыі будзе пастаўлены чарговы эксперымент — зарплата выкладчыкам будзе налічвацца ў залежнасці ад інтэнсіўнасці, якасці і дасягнутых вынікаў.

ПЕРСОНА

# «Самое главное — это не должности и не работа, а здоровье!»

*С **Николаем Корбутом** в Беларуси связана целая эпоха — он 11 лет возглавлял Министерство финансов. “Народная Воля” поинтересовалась, как сейчас дела у Николая Петровича.*

*— 100-процентного выздоровления, конечно, не наступило,* — ответила супруга экс-министра, который больше трех лет назад перенес инсульт. — *Но для семьи главное, что он жив. И может разговаривать — пусть медленно, но говорит. И что интеллект не нарушен. Так что все у нас нормально, не на что жаловаться.*

*Жизнь такая, что несчастье и болезнь могут с каждым случиться...*

*Я все время прошу, чтобы было не хуже. Чтобы эта стабильность, которую мы имеем, осталась. У других ведь бывает и хуже...*

*В общем, жизнь продолжается...*

По словам жены, Николай Корбут не потерял вкус к жизни. Он смотрит телевизор, занимается на тренажерах, просматривает новости в интернете.

*— Так что он в курсе того, что происходит.* — рассказывает Людмила Васильевна. — *Конечно, мы с сыновьями стараемся, чтобы он не скучал. У нас внуку год и десять месяцев, ну как с ним соскучишься? Он как только приходит к нам — сразу к деду летит! А старшему внуку уже 10 лет, взрослый парень...*

Несмотря на то что Николай Корбут давно отошел от дел, все равно интересуется, чем живет его родное ведомство.

*— Недавно у мужа был день рождения, много людей к нам пришло в гости — не только близких, но и с его работы,* — говорит Людмила Корбут. — *Звонков со всей Беларуси было очень много, приятных слов. В следующем году у него юбилей. Люди помнят его и телеграммы присылают и открытки на все праздники практически. Одним словом, муж не чувствует себя забытым. Спортсмены приходили, звонят часто из Федерации гимнастики, которую он когда-то возглавлял. Очень приятно, что люди так помнят, заботятся...*

*Мы чувствуем и поддержку, и заботу, и участие. На день рождения ведь никого не приглашали — люди сами приходят.*

*Муж всегда любил людей — в нем очень много доброты. Он редко мог кому отказать, переживал, не мог равнодушно относиться к чужим проблемам. Всегда всем хотел помочь. Я помню, в молодости мы жили в двухкомнатной квартире с двумя детьми, и я ему как-то сказала: “Ну как бы это нам поменять квартиру, чтобы хотя бы три комнаты было...” А он мне ответил: “У некоторых людей вообще нет никакой квартиры, они снимают жилье”. В этом он весь! И сейчас мы живем, как и все, в самых простых условиях, ничем не выделяемся. Денег нам всегда хватало — в любые времена. Муж по этому поводу говорил так: у меня такая жена, что нам всегда хватало, даже если денег было очень мало...*

*А болезнь... Ну что сделаешь, от этого ведь никто не застрахован... Я сейчас понимаю, что самое главное — это не должности, не работа, а здоровье. Это самая большая ценность! И семья. А все остальное — мелочи...*



**Марина КОКТЫШ.**

### ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

*Николай Петрович Корбут родился 1 ноября 1948 года в деревне Гутница Слуцкого района Минской области.*

*Окончил Белорусский государственный институт народного хозяйства им.Куйбышева (1977).*

*Служил в Советской Армии (1970—1972).*

*Работал на руководящих должностях в Министерстве финансов, заместителем председателя Контрольной палаты Республики Беларусь (1992—1996), первым заместителем председателя правления Национального банка Республики Беларусь (1996—1997).*

*С 1997 года министр финансов Республики Беларусь.*

*В марте 2008 года перенес инсульт.*

*14 августа 2008 года президент освободил Николая Корбута от должности министра финансов.*

*Беспартийный.*

*Возглавлял Белорусскую федерацию гимнастики (с 1998 г.).*

*Женат, имеет двоих сыновей.*

*Любит театр и спорт.*

ВІНШАВАННЕ

## *Мы — заўсёды з Вамі!*

Паважаны Іосіф Паўлавіч, добры дзень!

Пачну з таго, што выкажу Вам вялікую падзяку за “Народную Волю” ад сябе і многіх іншых чытачоў газеты, з якімі я кантактую. Цяпер нельга нават уявіць тую цемру, у якой мы жылі б без нашай любімейшай “Народнай Волі”. Дзякуй Вам, дарагі галоўны рэдактар, і ўсяму цудоўнаму калектыву за цяжкую працу, цану якой мы, прыхільнікі “Народнай Волі”, добра ўяўляем!

І нізка схіляем галовы перад Святланай Калінкінай! За аддансаць ідэалам свабоды, дэмакратыі, праўды, за вялікую любоў да Беларусі! І, самае галоўнае, за мужнасць. Сапраўдны журналіст, прафесіянал, Святлана Міхайлаўна і чалавек светлы — вельмі прыгожая жанчына.

Таксама дзякуй Вам, Іосіф Паўлавіч, за тое, што Вы часта друкуеце вершы цудоўнага нашага паэта, грамадзяніна, вялікага змагара за нашу родную мову, за Беларусь Ніла Сымонавіча Гілевіча. Які, нягледзячы на цяжкасці лёсу, “не звесіў галаву”, як сам сказаў у адным з вершаў, якія былі надрукаваны ў №№ 193—194 за 2012 год. Вельмі моцны гэты верш — першы ў падборцы. Шэсць радкоў усяго, а як шмат сказана, якая глыбіня! Які вялікі талент!

Дарагі Ніл Сымонавіч! Дзякуй за тое, што Вы ў нас, у роднай Беларусі, ёсць! Жывіце для нас доўга, калі ласка!

Трымайцеся, дарагія “народнавольцы”! Будзьце здаровыя, шчаслівыя!

З Калядамі, з Новым, 2013, годам вас!

Мы — заўсёды з вамі!

**Ірына Якаўлеўна КАРМАНОЎСКАЯ.**

*Мінск.*

ШЧЫРА

## Сяргей КАСЦЯН:
## *«Як перастаў быць дэпутатам, пачаў чытаць «Народную Волю»*

*Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Сяргей КАСЦЯН — асоба неардынарная. Ва ўсялякім разе ідэі ён падаваў такія, што журналісты толькі пацiралі рукі — яшчэ адзін інфармацыйны повад!*

Спадар Касцян прапаноўваў прымусова стэрылізаваць бацькоў, якія вядуць антысацыяльны лад жыцця, нярэдка казаў пра трэцюю сусветную вайну, якая, па яго словах, ужо ідзе, выказваўся пра беларускіх удзельнікаў “Еўрабачання”, што яны быццам “адмаўляюцца прапагандаваць сваю нацыянальную культуру і музыку”...

Мы пацікавіліся ў Сяргея Іванавіча, якія падзеі апошняга часу з жыцця краіны запомніліся яму больш за ўсё?

— Не буду паглыбляцца ў гісторыю, адзначу асноўныя падзеі апошняга года, — кажа суразмоўца. — І, на мой погляд, станоўчага было больш. Ёсць поспехі ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы... Тым не менш я не зусім задаволены зместам правядзення чарговых парламенцкіх выбараў. Непрыемны “ляпсус” атрымаўся і са шведскім самалётам, які свабодна пераляцеў праз беларускую мяжу і раскідаў цацкі. Асабіста для мяне незразумелы і той факт, што некаторыя прадстаўнікі беларускай апазіцыі просяць і атрымліваюць палітычны прытулак за мяжой. Змагацца трэба на радзіме. А недахопаў у краіне на самай справе хапае — іх трэба паказваць. Наш “Славянскі камітэт”, напрыклад, накіраваў і ў Адміністрацыю прэзідэнта, і ва ўрад ліст, у якім выказваецца заклапочанасць тым станам беларускай мовы, у якім яна знаходзіцца. Так трэба працаваць і апазіцыі. У гэтым плане мне падабаецца “Народная Воля”...

**— Вы чытаеце нашу газету?**

— Калі працаваў у парламенце, то быў настолькі заняты распрацоўкай законаў, што на прагляд газет проста не хапала часу. А зараз я рэгулярна чытаю “Народную Волю” і не ўтойваю гэтага. Тут я знаходжу аналітычны разумны падыход да праблем. І гэта радуе! Улада павінна ведаць свае недахопы. У нас Беларусь — адна на ўсіх, і усе павінны працаваць дзеля таго, каб яна квітнела. Не трэба спадзявацца ні на Захад, ні на Усход.



**— Ці сорамна вам сёння за нейкія законы, якія ў свой час прымаліся з вашым удзелам?**

— Ні за адзін не сорамна, бо я заўсёды ўважліва іх чытаў перад тым, як за нешта галасаваць. Праўда, аднойчы ў меншасці ўносіў прапановы ў Закон аб партыях... А пасля падумаў: “А можа, і няправільна раблю, калі прапаную адзін?” І прагаласаваў, як усе. Але я з калегамі тройчы блакіраваў Жыллёвы кодэкс, у мяне ёсць свая пазіцыя. Многія шыпелі на мяне: “Што ты робіш? Прэзідэнт распусціць парламент...”. Але ж ніхто нікога не распусціў, бо кодэкс быў накіраваны супраць простых людзей. Ды і часцей у нас не законы вінаваты, а інструкцыі па выкананні законаў.

**— А чаму не падтрымалі вашу ідэю прымусова стэрылізаваць тых бацькоў, якія вядуць антысацыяльны лад жыцця?**

— Я да гэтага часу не разумею — чаму. Хоць ад сваіх слоў да гэтага часу не адмаўляюся — стэрылізаваць трэба тых паразітаў, якія не думаюць пра родных дзяцей! Ідзе прапаганда алкаголю, алкаголікі нараджаюць хворых дзяцей. Апошнія застаюцца сіротамі. Гэта нармальна?! На здаровых трэба грошы аддаваць, а не алкаголікаў падтрымліваць.

**— За што вы хацелі б падняць келіх шампанскага на Новы год?**

— За мір і стабільнасць у краіне, за мір і адзінства славян!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА

# Тюремные университеты Николая Автуховича

Николай Автухович, один из лидеров предпринимательского движения, успешный бизнесмен, был осужден 16 мая 2010 г. Верховным судом Республики Беларусь на пять лет и шесть месяцев лишения свободы по обвинению в хранении оружия и боеприпасов.

Первоначально Николай Автухович, а также Владимир Осипенко, Михаил Козлов и Александр Ларин обвинялись в ряде тяжких преступлений, в том числе в подготовке террористического акта и покушения на должностных лиц, но в результате открытого рассмотрения дела в суде были оправданы по большинству предъявленных обвинений. Дело изначально имело громкий общественный резонанс и находилось под пристальным вниманием правозащитников, журналистов, политиков. Следствие по данному уголовному делу сопровождалось значительными нарушениями процессуальных норм. Широко использовалось давление на свидетелей. В итоге столь значительный срок предприниматель получил якобы за хранение пяти охотничьих патронов, притом что он сам в прошлом являлся охотником.

За время заключения Николай Автухович неоднократно прибегал к голодовкам для защиты своих прав. Одна из них длилась более 70 дней, что поставило его на грань жизни и смерти.

Отбывал наказание в ИК-5 в Ивацевичах. Никаких оснований для отказа Автуховичу в УДО начиная с весны 2011 года не было. Тем не менее освобожден он не был. С осени 2011 года давление на политзаключенного резко усилилось. В результате одного из инцидентов Автухович вынужден был вскрыть себе вены.

Решением суда от 17 января 2012 года условия отбывания наказания Автуховичу были заменены на более жесткие, он переведен из колонии №5 в Ивацевичах в тюрьму №1 Гродно.

Это уже не первое тюремное заключение в жизни Николая Автуховича. 7 июля 2006 года осужден на 3 года и 6 месяцев тюрьмы якобы за “уклонение от налогов”. Тот приговор также был признан политическим, так как истинными причинами уголовного преследования были не мифические нарушения, а борьба предпринимателя за свои права, за свой бизнес, на который положили глаз местные коррумпированные чиновники.

Николай Автухович, прошедший службу в Афганистане, стал одним из лидеров союза воинов-интернационалистов. Именно с этим многие связывают массовый отказ “афганцев” принять награду от имени Лукашенко в начале 2009 года.

Не считая себя виновным, Николай Автухович категорически отказался писать прошение о помиловании А.Лукашенко. И все же хочется надеяться, что вскоре он будет на свободе.



ПИСЬМО ИЗ-ЗА РЕШЕТКИ

## Я выдержу!

*Сейчас наплыв писем немного спал. Все устаканилось, народ подстраивается под реалии, думает о насущном. Притихли и те, кто выдвигал требования и делал смелые прогнозы. Игра пошла не по их правилам, а точнее, совсем не по правилам. Они поняли, что бессильны. Одни не знают, что делать (как и не знали этого раньше), а другие ждут предложений от “банкующего”.*

*У меня все в порядке, в стадо не загнали. Больше всего меня напрягает то, что я не могу ничем помочь своим родителям. На свободе им сейчас тяжелее, чем мне здесь, в тюрьме. Власть имущие сделали жизнь людей сплошной имитацией. Все погрязло во лжи. При таких ценах, не знаю как может прожить моя сестра, которая зарабатывает 1.000.064 рубля, работая санитаркой в поликлинике. Как прожить маме на пенсию в 1.000.170 рублей? Вот и думай, кто из нас находится в тюрьме — я или они? Стараюсь постоянно писать маме одно-два письма в неделю. Ей так легче. Звонить мне, естественно, запрещено, а очень хотелось бы услышать родные голоса. Больше года я их уже не обнимал и долго еще не смогу этого сделать. Вот на мой день рождения 7 января мне останется сидеть 15 месяцев. Как бы немало, а в то же время и совсем не много, если вспомнить, сколько попросил прокурор на суде. Самое главное, чтобы хватило здоровья. Здесь все тоже относительно, многое зависит не от меня самого. Вот что я точно могу сказать за себя, так это то, что “бе-е-е” говорить не стану! И не стану класть на чашу весов свою честь, даже в противовес здоровью. Поэтому за меня не переживайте, я все выдержу!*

**Николай АВТУХОВИЧ, Гродно, тюрьма №1.**

ПРЫСВЯЧЭННЕ

*З вялікім задавальненнем прачытаў нізку вершаў Генадзя Бураўкіна. Не сумняваюся, што і ўсе, хто чытае “Народную Волю”, сустрэлі вершы нашага выдатнага паэта з вялікай радасцю. Я прысвяціў Генадзю Мікалаевічу гэтыя радкі і хачу, каб ён іх прачытаў напярэдадні Новага года!.*

## Паэт і ўлада

*Паэт, што ад Бога, —*
*Багацце дзяржавы.*
*Ён — яе гонар,*
*Народная слава.*

*Ды толькі на дзіва*
*Сягоння улада*
*У лепшым выпадку*
*Паэту не рада*

*За голас ягоны,*
*За вольнасці дух,*
*Бо ён для улады*
*Заўсёды не ў нюх.*

*А ён не змаўкае,*
*І слова гучыць,*
*Бо сэрца яго*
*За Радзіму баліць.*

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.**

*г.Слаўгарад.*

# Как начали отмечать Рождество в мире



Папа Римский Бенедикт XVI в своем традиционном рождественском послании Urbi et Orbi (“Граду и миру”) с балкона собора Святого Петра призвал к “прекращению кровопролития” и “политическому решению” конфликта в Сирии.



Члены берлинского клуба моржей отметили Рождество традиционным погружением в прорубь.

ПОСТАЦЬ



## Барыс КІТ: «Жыву, як можна жыць пасля 100 гадоў...»

*Барыс Уладзіміравіч Кіт... Беларус, якога ведае ўвесь цывілізаваны свет. Яго прозвішча выбіта на сцяне Кангрэса Злучаных Штатаў Амерыкі сярод ста самых знакамітых асоб. Ён — адзін з распрацоўшчыкаў ракетнага паліва, лаўрэат многіх міжнародных узнагарод. Цяпер жыве ў Франкфурце-на-Майне.*

*З радасцю ўспрыняў званок “Народнай Волі”.*

**— Барыс Уладзіміравіч, праз некалькі месяцаў Вы адзначыце 103-годдзе. З якім настроем сустракаеце 2013-ы?**

— Шчыра кажучы, у маім узросце казаць пра нейкі вельмі аптымістычны настрой, можа, і не трэба. Але ж і песімістам нельга быць — жыву, як можна жыць пасля 100 гадоў.

**— Ці дазваляюць зрок, наогул стан здароўя чытаць прэсу, глядзець тэлевізар?..**

— Кожны дзень з гэтага пачынаецца і гэтым заканчваецца. Чытаю і газеты, і кнігі, гляджу ўсе цікавыя для мяне тэлеперадачы.

**— А за камп’ютарам не сядзіце?**

— Не, камп’ютарам ужо не абцяжарваю сябе.

**— Сочыце за падзеямі, якія адбываюцца ў Беларусі?**

— Вядома ж, сачу. Трымаю сувязь з Бацькаўшчынай і праз ліставанне з многімі добрымі людзьмі, і праз тэлефон.

**— Каму з суайчыннікаў хацелі б перадаць прывітанне напярэдадні Новага года?**

— У першую чаргу маім даўнішнім сябрам — Лідзіі Сымонаўне Савік і Ірыне Міхайлаўне Быкавай. Шчыра віншую з надыходзячым Новым годам і Калядамі прафесара Гродзенскага ўніверсітэта Андрэя Майсеенку, знанага паэта Сяргей Законнікава, вядомага спецыяліста ў галіне стандартызацыі Юрыя Пашыка...

**— Якую падзею ў найноўшай гісторыі Беларусі Вы лічыце галоўнай?**

— Падзею, якая адбылася ў 1991 годзе, — абвяшчэнне Незалежнасці маёй роднай Беларусі.

**— Дазвольце, Барыс Уладзіміравіч, і Вас павіншаваць з Новым годам і Раством Хрыстовым. Трымайцеся. Вы — волат беларускага духу. Здароўя і найлепшых дзён у будучым.**

— Дзякуй! Я шлю найдобрыя пажаданні ўсім беларусам.

**Сяргей КУНЦЭВІЧ.**

# 2012-й: чем запомнился?

Каждый год авторитетное издание — журнал Science подводит итоги года, определяя самые важные события в разных сферах науки.

В этом году первое место в списке научных прорывов Science безоговорочно отдал открытой при помощи Большого адронного коллайдера (БАК) “частицы Бога” — бозона Хиггса. О революционном событии ученые Европейского центра по ядерным исследованиям (CERN) сообщили летом. Бозон Хиггса был последним недостающим элементом в теории об устройстве Вселенной. Гипотезу о существовании частицы более 40 лет назад выдвинул профессор Питер Хиггс.



## Марсоход

Посадку марсохода Curiosity американского космического агентства NASA на Красную планету эксперты тоже считают важнейшим достижением. Аппарат начал работу на Марсе 6 августа. Главная цель экспедиции — установить, существовали ли на планете когда-либо условия для зарождения живых организмов.



## Смена караула

В Китае, стремительно догоняющем Америку по объему ВВП, состоялась плановая смена власти. Публике представлен заранее предопределенный новый состав постоянного комитета политбюро ЦК правящей Компартии во главе с Си Цзиньпином.



## Механическая рука

По достоинству оценены и усилия инженеров по созданию управляемой импульсами мозга механической руки, которая должна кардинально облегчить жизнь парализованным пациентам. Механизм может выполнять сложные движения в трех измерениях. Инженеры представили публике 52-летнюю женщину, которая оказалась обездвиженной из-за заболевания мозга 13 лет назад. С помощью вживленных электродов она управляла механической рукой, которая смогла даже покормить ее.

Пока технология является экспериментальной и дорогостоящей, однако команда исследователей из американского штата Пенсильвания надеется, что в ближайшем будущем такой аппарат будет доступен многим нуждающимся в нем.

## Восстание в Сирии

Весь год продолжалось восстание в Сирии против режима президента Башара Асада. Столкновения перекинулись на крупные города, такие как Дамаск и Алеппо; западные страны разорвали дипломатические отношения с Асадом и начали признавать оппозицию. Однако перелома не произошло: правительственные войска сохраняют превосходство в тяжелых вооружениях, а ряд стран во главе с Россией продолжил оказывать поддержку режиму. К концу года, по оценкам правозащитников, число жертв конфликта с марта 2011 года превысило 40 тысяч.





## Перевернулся и затонул

В начале 2012 года круизный лайнер “Коста Конкордия” налетел на скалы, выполняя непродуманный маневр у берегов итальянского острова Джильо, перевернулся и затонул. 32 человека погибли. Итальянские власти возложили основную ответственность за кораблекрушение на капитана судна Франческо Скеттино, который, по мнению прокуроров, не только затеял опасный маневр, но и оставил терпящий бедствие корабль. Он лишь частично признает вину. “Коста Конкордию” планируется поднять в 2013 году.



## Фрагмент Культурной олимпиады

В шекспировском театре “Глобус” в Лондоне прошел фестиваль “Globe to Globe”, на котором пьесы Шекспира исполнялись на 37 разных языках: от китайского, урду, армянского до языка маори *(на фото).*

Фестиваль стал частью Культурной олимпиады, приуроченной к Олимпийским играм в Лондоне летом 2012 года.



## Впервые в истории

57-летний китайский писатель Мо Янь стал лауреатом Нобелевской премии по литературе за 2012 год. Впервые в истории этой премии удостоился автор из КНР.

## Бриллиантовый юбилей королевы Елизаветы II

Его кульминацией стала процессия судов по Темзе. Порядка 1,2 млн человек собрались на берегах реки, пересекающей Лондон, чтобы следить за красочным парадом с участием королевской баржи. Речной парад продолжался шесть часов и завершился, когда последняя лодка прошла 12-километровую дистанцию.



## Президент Мурси

В Египте — стране, переживающей последствия арабской весны, — в 2012 году состоялись президентские выборы, которые наблюдатели сочли в целом справедливыми и свободными. На них победил кандидат, поддержанный исламистским движением “Братья-мусульмане”, — Мохаммед Мурси. Мурси быстро навлек на себя гнев заметной части египетского общества, издав указ, расширяющий его полномочия, а затем выставил на референдум проект новой конституции с отчетливо исламистским акцентом.



## Видеоклип

Видеоклип южнокорейского рэпера Psy побил абсолютный рекорд по числу просмотров на портале YouTube. Его сингл под названием Gangnam Style за полгода посмотрели более миллиарда пользователей.



ГОЛАС НАРОДА

# «Сталіны, Хрушчовы і Лукашэнкі мяняюцца, а дзеці застаюцца»

*Кацярына Іванаўна Берасневіч, пенсіянерка з вёскі Квасынічы Слуцкага раёна, цяжка адпрацавала ўсё жыццё. Як, зрэшты, і мільёны беларусаў. Але ці забяспечыла гэта шчаслівую старасць у годных умовах?*

— Што я дала дзяржаве і чым яна аддзячыла? Цяжка сказаць... От некалі ў нас быў калгас імя Хрушчова, пасля ўжо саўгас, а цяпер і не ведаю — мусіць, “Белічы”. Гэтак і з дзяржавай — то адно, то другое, то трэцяе... Ведаю, што Лукашэнка ўсім правіць, а як — хіба мне адсюль відаць? Дае пенсію, дык і добра... Але няма ўжо здароўя ні ў самой, ні ў майго гаспадара — нямоглыя парабіліся, бо старыя. Сашу майму 92-і пайшоў, і мне на дзявяты дзясятак. Здаецца, рукамі б яшчэ рабіла, але ногі не слухаюцца, кволяцца. Добра, што дзяцей шмат, унукаў — і бульбу выкапаюць, і яблыкі абяруць.



**— Вы ўсё жыццё на ферме працавалі, у перадавіках хадзілі, то і пенсія, відаць, немалая…**

— Ну як немалая?! Як ва ўсіх... Аднолькавая тая пенсія што ў перадавікоў, што ў астатніх. Але хапае: ці шмат трэба старым людзям?.. Ды і пенсіянераў на вёсцы — лічаныя ўжо, мы з Сашам — самыя старыя. Можа, і засталося б здароўе, але ж 33 гады ў гумовых ботах, па калена ў гнаі, на холадзе дарма не прайшлі. Не паверыш, працавалі амаль задарма, за працадні-палачкі. І нічога — было цікава, нават весела. Мо таму, што пасля вайны павярталіся нашыя, ды і маладыя былі.

**— Кацярына Іванаўна, у вас пяцёра дзяцей, 12 унукаў і 13 праўнукаў… Можа, у дзецях тое шчасце-радасць?**

— Сталіны, Хрушчовы і Лукашэнкі мяняюцца, а нашыя дзеці застаюцца — і гэта самае галоўнае для бацькоў. От мой Саша ўсю вайну прайшоў, жывога Сталіна на трыбуне бачыў. Раней казаў: каб не Сталін, то немца не выперлі б... А я думаю, што выперлі яго такія, як мой брат Вацік — ён на фронце і злажыў галаву. І не Сталіну служыў брат, а роду нашаму — за яго і аддаў жыццё. Пасля і сыны мае служылі: Толік — у авіяцыі, Вацік — танкістам, Валодзя — мараком. І ты пытаешся: што я дала дзяржаве?.. Хай бы лепш запыталі: што мне дала дзяржава?

**— А і напраўду, Кацярына Іванаўна, што яна дала, чым такім аддзячыла?**

— Ведаеш, нічога такога, але мне і не трэба. Абы толькі дзецям добра было, ды дзецям іх дзяцей... Зямля наша вытрывала розныя навалы. То адна дзяржава, то акупацыя, то другая, то яшчэ якая трасца... Але ж Беларусь-краіна на месцы, людзі нараджаюцца, жывуць, і гэтак будзе заўсёды... А што не падвялі да хаты газ, то халера іх бяры — неяк пражывём і на дровах-торфе.

**Іван ГРЫГАРОВІЧ.**

ЗЕРКАЛО

# Солдаты той войны...

*Не будет преувеличением сказать, что последние десятилетия в Беларуси шла нескончаемая война. Информационная. На уничтожение. Власть делала все возможное и невозможное, чтобы дискредитировать, растоптать, уничтожить своих оппонентов. Один из самых ярких солдат той войны дослужился до самых высоких постов — возглавил Белтелерадиокомпанию, стал сенатором. Однако после президентских выборов 2010 года лишился всех постов и сегодня работает в России.*

*На вопросы “Народной Воли” ответил Александр Зимовский.*



**— Александр, когда-то вы удачно сформулировали главный слоган официальной политики: “Чарка, шкварка, иномарка”. Сейчас, спустя годы, хотелось бы, чтобы оценили этот рецепт счастья по-белорусски. В чем оказались его главные плюсы, в чем минусы?**

— В целом слоган оказался удачнее всех прочих. Он благополучно пережил такие шедевры агитпропа, как “Жыве Беларусь!”, “За Беларусь!”, “За сильную и процветающую Беларусь!”. Возможно, потому, что мой рецепт счастья оказался реально осязаемым. Его ингредиенты можно пощупать, пожевать, пригубить, хряпнуть, на них можно кататься. Это плюсы.

Минус в том, что это приговор пресловутой белорусской духовности, этакий трансфер книжек Быкова и Купалы с Коласом в местную версию потреблятства. Сдай макулатуру — получи талончик на “корч” и катайся. Правда, это мировой тренд, так что плакать не надо.

И еще. Было бы нечестно закрыть глаза на то, что “чарка, шкварка, иномарка” позорно и возмутительно подорожали и начинают проходить по разряду белорусского luxury. А этот тренд ведет напрямую в барак, где Андрей Соколов, герой кинофильма “Судьба человека”, делил пайку, полученную от коменданта лагеря.

**— Вы активно участвовали в информационных войнах на стороне власти, а сейчас в своих колонках любите посмеяться над белорусским чиновничеством. Что изменилось: вы, чиновники, взгляды на жизнь?**

— Строго говоря, в информационных войнах участвовали другие. Я всего лишь разрабатывал сценарии, планировал и доводил дело до победы. Меня, собственно, для этого и нанимали.

И вовсе я не смеюсь над чиновничеством. Многие государственные служащие — мои добрые знакомые, соратники и мои выдвиженцы. Как правило, люди честные, компетентные, хорошо вышколенные и с незашоренными мозгами. Смешно и стыдно наблюдать, когда их делают идиотами в квадрате. Но и этому есть объяснение.

Чиновники не понимают, что происходит, они дезориентированы. Им невозможно планировать карьеру, невозможно уйти в бизнес, нет гарантий. Зарплата смехотворна, вы представить себе не можете, как унизительно себя чувствует любой белорусский чиновник при встрече, ну, хотя бы с российскими коллегами. Добавьте сюда тщательно культивируемое в СМИ неуважение и даже ненависть к госаппарату, и вы поймете, почему качество госуправления неуклонно снижается. А я всего лишь публично фиксирую эту деградацию и стараюсь, чтобы это, по возможности, было забавно и по-доброму. У людей и так мало радости, они мои тексты прочтут и улыбнутся.

Так что взглядов я не менял — без лести предан. Прямота, искренность, резкость, я на этом состоялся и как автор, и как начальник, это мой социальный капитал. Уважение к власти не в том, чтобы слепо врать подчиненным и своим коллегам. И потом, не скрою, мне симпатична эта юная синеокая модель, и я лишь деликатно намекаю, что ей следует **более лучше одеваться**. Надеюсь, читателям “Народной Воли” этот мем знаком.

**— Почему все-таки вы ни разу не пригласили оппозиционеров в свои авторские программы и в эфир БТ? Неужели это действительно такая большая угроза для существующей власти?**

— Это не угроза для власти, это вопрос понятий, пацанский вопрос, как у нас в России говорят. Оппозиционеры патологически ненавидят Александра Григорьевича Лукашенко. Почему он должен подставлять им правую или левую щеку? Вы скажете: “Ну, он же сильный, что ему стоит?” Однако в белорусской политике библейские притчи неприменимы. Народ-богоносец не поймет, здесь слабого ногами топчут, а потом друг друга жрут и тем сыты бывают.

Что до приглашения в эфир от меня лично, то здесь еще проще. Вы справедливо упомянули, что мы вели информационные войны. На войне у противника есть один шанс попасть в эфир противоборствующей стороны — надо стать перебежчиком. Унижать оппонентов предложением переметнуться прямо в эфире было бы невежливо, а даром отдать им информационное поле — глупо. Вот так и не встретились.

**— Пару слов о себе. Чем сейчас занимаетесь, как часто бываете в Беларуси, чем занимаются дети?**

— Дети у меня, как у президента России В.В.Путина, учатся и отчасти работают. Я их не тороплю на свершение трудовых подвигов. Сам же я консультирую питерских товарищей по вопросам ведения информационных войн, и, надо сказать, за последние два года они достигли в этом поразительных успехов. Хороший медиаконсультант — он как семейный доктор, знаете ли. Так что когда болезни обостряются, я в Питере. А как кризис миновал — или в Минск, или на воды.

**— Традиционный новогодний жанр — политический прогноз. Каков прогноз Александра Зимовского?**

— Вот вы меня наповал бьете этим вопросом. Не занимаюсь я белорусской проблематикой вплотную, поэтому возможны аберрации. Не сделаю большого открытия, сказав, что белорусская публичная политика уйдет в Сеть и, похоже, не вернется. Идеология продолжит разваливаться. Власть сделает как минимум три-четыре большие глупости, которые, теоретически, смогут породить локальные стихийные бунты. Они будут подавлены, но не исключаю хотя бы одного убийства, которое можно будет раскрутить как политическое. Рубль упадет, водка подорожает, сало тоже...

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

ІРАНІЧНАЯ ПАЭЗІЯ



Фота Д. Кунстадтара

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

# Зноў пра Хомку...

*30 кастрычніка 2012 года “Народная Воля” надрукавала мае “Вершы для Хомкі”.*

*Публікацыю заўважылі.*

*Сярод водгукаў зацікавіла і пытанне:*

*— А можа, гэта вершы не для Хомкі, а пра Хомку?*

*Пытанне слушнае, і мой адказ быў такі:*

*— Дзеля настрою, дзеля хатняй весялосці я пачынаў складаць вершы для Хомкі, а далей стала бачна, што гэта вершы пра Хомку. І менавіта ж толькі пра яго, як у народзе кажуць, француза! Але ці варта мяняць пачатковую назву? Думаю, не...*

*Са мной згадзіліся.*

*А яшчэ сказалі:*

*— Твой Хомка — з’ява сацыяльная!*

*— І не толькі сацыяльная, — адказаў я, — і грамадска-палітычная таксама, бо Хомку ў нашым жыцці цікавіць усё! І Новы год Хомка будзе сустракаць гэтак жа, як і ўсе, — за сталом! І будзе гаварыць, як і ў кожнай беларускай сям’і гавораць, пра ўсё — апазіцыю, прэзідэнта, Абаму, немцаў, начальнікаў, Сталіна, Еўразвяз, Ізраіль, Напалеона, паэтаў, графаманаў, п’яных танкістаў... І навагодняе пажаданне ў Хомкі напагатове:*

*“Шаноўныя сябры! Хай тыя людзі, якія прыносяць вам добры настрой, заўсёды знаходзяцца ад вас на адлегласці выцягнутай... лапкі (варыянт: рукі)!*

*З Новым годам!”*



Фота А. Паплаўскай

## Хомка і апазіцыя

*Апазіцыя спытала:*
*“Ты, Хама, чаму не ў нас?*
*Разам быць пара настала!*
*Надышоў такі ўжо час!”*

*“Просьба вашая не страшыць! —*
*Стаў наш Хомка гаварыць. —*
*Буду лідарам я вашым,*
*Кіраваць — як мае быць!*

*Я работу так пастаўлю,*
*Ажно кожны загудзе*
*Не ў Варшаве, а ў Заслаўі*
*І не ў Вільні, а ў Уздзе!*

*Годзе ездзіць на кангрэсы,*
*Кланяцца чужым сталам!*
*Бо адстойваць інтарэсы*
*Поля роднага і лесу*
*Лепей тутака, чым там!*

*І прайсці з вас кожны мусіць*
*Ад сяла і да сяла...”*

*Апазіцыя чамусьці*
*Не даслухала — сышла.*

## Хомка і «Звязда»

*Хомка ўбачыў на хаду*
*Учарашнюю “Звязду”...*
*І ўздыхнуў ён: “От бяда!*
*Ты чаму, “Звязда”, “Звязда”?!*

*Мне яно не ўсё адно:*
*З назвай гэтаю ці з той!*
*Ты павінна ўжо даўно*
*“Зоркай” быць, а не “Звяздой”!*

*Ты газета як газета,*
*А не думаеш ніяк*
*Пра галоўнае, пра гэта —*
*Назву збеларусіць як?!”*

*Хомка наш напагатове,*
*Ён усім расказвае,*
*Што “Звязда” на роднай мове,*
*Ды з няроднай назваю!*

## Хомка і «Бярозка»

*Хомка неяк у кіёску*
*Захацеў купіць “Бярозку”*
*І пачуў: “Спазніўся ты!*
*Той “Бярозцы” ўжо кранты!*

*Знікла, бы ў агні палена...*
*Службу правяць малайцы...*
*Гэтак і з “Чырвонай зменай”...*
*Далучылі і капцы!*

*З малайцамі ўсё няпроста...*
*А з “Бярозак”, паглядзі,*
*Засталася ўсё ж “Бярозка” —*
*Рэстаранік ля кіёска! —*
*Калі хочаш, дык зайдзі!”*

*Ды Хама адкінуў жарты,*
*А пра гэтых... малайцоў...*
*Так падумаў: кожны варты*
*Ста бярозавых дубцоў!*

## Хомка і Абама

*Хомка выбарчую драму,*
*Што ў Амерыцы, запомніў:*
*Частка штатаў за Абаму,*
*Роўна столькі ж і за Ромні!*

*Перамог усё ж Абама*
*Згодна з правам і законам,*
*Мірна скончылася драма —*
*Апусцілася заслона.*

*І пра тую драму прама*
*Хомка так сказаў: “Абама, —*
*А хоць доказы якія! —*
*Ромні... у турму не кіне!”*

## Хомка і немцы

*Хомцы сон прыйшоў нязнаны,*
*Гэткіх і не бачыў сноў:*
*Ён пайшоў у партызаны,*
*Супраць немцаў ён пайшоў!*

*Немцы Хомку акружылі,*
*Не здаецца Хомка наш*
*І расстрэльвае за хвілю*
*Хомка цэлы патранташ!*

*А калі патроны выйшлі,*
*То гранату Хомка хоп*
*І пацэліў (слаўна выйшла)*
*Проста Гітлеру — у лоб!*

*Немцы, ведамая справа,*
*Рукі ўгору паднялі, —*
*Пра Хаму пабегла слава*
*Па савецкай па зямлі!*

*Перамога зоркай яснай*
*Бліснула: канец вайне!..*
*А далей у гэтым сне*
*Хомка наш пачаў расказваць*
*Піянерам аб вайне!*

## Хомка і выдавецтва

*Напісаў Хама ўспаміны*
*Пра жыццё сваё і лёс,*
*Дзве таўшчэзныя таміны*
*У выдавецтва ён занёс.*

*Добрай цешыцца адзнакай*
*Марыў, ды пачуў аднак:*
*“Ты — сабака? Так, сабака!*
*Толькі ты не з тых сабак!*

*Ты не з нашага саюза*
*І не з нашай чарады;*
*Ты не лашчышся да пуза,*
*Што трымае павады!*

*Хочаш кніжку мецць і славу*
*Ты, француз ці беларус,*
*То пішы тады заяву,*
*Пераходзь у наш саюз!*

*А не хочаш, дык даволі!*
*Як скакаў, так і скачы!*
*Выдавецкай больш ніколі*
*Галавы не марачы!”*

*...Гэтак от сустрэлі Хому,*
*Нуль павагі да Хамы,*
*І Хама панёс дадому*
*Два вялізныя тамы.*

## Хомка і начальнікі

*Рада — роднае найменне,*
*Але страціла яно*
*Палітычнае значэнне,*
*І не вельмі каб даўно...*

*Час вярнуць значэнне тое,*
*Хоць начальнікі — круць-круць —*
*На круцельства на любое*
*Пойдуць, каб не даць вярнуць!*

*Скажуць: “Рада нам ня нада!*
*Лучша Рады той — Савет!..”*
*А калі “ня нада” Рада,*
*То не трэба й родны свет.*

*Мова родная не трэба,*
*Ёсць імперыі гавор;*
*Роднае не трэба неба,*
*Хопіць і крамлёўскіх зор...*

*Хомка з гэтае прычыны*
*На начальнікаў зірне*
*І падумае: “Мужчыны...*
*Хай баран вас убрыкне!”*

## Хомка і лінія Сталіна

*Дзеткам расказвае,*
*што было спалена,*
*Знішчана што ў 41-ы той год,*
*Ну і, вядома, пра лінію Сталіна*
*Хомка расказвае (экскурсавод!):*

*“Немцы рашуча*
*на танках напалі на*
*Мінск... Ды заплакалі ўсе як адзін,*
*Бо наляцелі на лінію Сталіна*
*І павярнулі назад на Берлін!”*

## Хомка і ягоныя веды

*Хомка ведае: ад ежы*
*Шчасце нашае залежыць*
*І ад ласкі, і ад волі,*
*Ды ад ежы ўсё ж найболей!*

*Хомка ведае, што маса*
*Болей патрабуе мяса,*
*Пасля мяса — асалоды...*
*І ніякай там свабоды!*

## Хомка і Хлопус

*Графаман вядомы Хлопус*
*Нёс дадому школьны глобус.*
*Каб хутчэй данесці глобус,*
*Сеў той Хлопус у аўтобус.*

*Едучы, абдумваў Хлопус*
*Графаманскі новы опус*
*І забыў пра школьны глобус,*
*Пакідаючы аўтобус!*

*Хомка, скокнуўшы ў аўтобус,*
*Так сказаў: “Цікавы фокус*
*Выкінуў, забыўшы глобус,*
*Графаман вядомы Хлопус!”*

## Хомка і Вова-пацыфіст

*Бацька Вовы (уплывовы!)*
*З генералам вёў размовы*
*І падбаў пра тое тата,*
*Каб не стаў сынок салдатам!*

*Шмат гадоў прайшло, і Вова*
*Аб гешэфце тым ні слова,*
*А ў газеце часам свісне:*
*“Не служыў, бо пацыфіст я!”*

*Хомка кажа: “От натура...*
*Любіць жа мастацкі свіст...*
*Вова, ты спачатку — турак,*
*А пасля ўжо пацыфіст!”*

## Хомка і пара

*Падышла да лазні пара,*
*Бачыць: валіць з лазні пара!*
*І цікава стала пары:*
*“А чаму так многа пары?”*

*Хомка адказаў той пары:*
*“Ды для вас нагналі пары,*
*Каб зайздросна іншай пары*
*Стала ад вялікай пары!”*

## Хомка і назвы

*Ні паэзіі, ні казкі*
*І ні роднага світання...*
*Што за вулічныя назвы?!*
*Толькі горкае ўздыханне...*

*Толькі леніны і марксы,*
*Лібкнехты і люксембургі...*
*Прачытаўшы тыя назвы,*
*Хомка пастаіць і буркне!*

## Хомка і прэмія

*Графаман здабыў (не майстар!)*
*Прэмію за свой раман...*
*Як бы майстар ні стараўся,*
*Перамог бы графаман!*

*Бо журы замілавана*
*Прэмію сваім дае,*
*І звычайна графаманы*
*Для журы заўжды свае!*

*Хомка правіла святое*
*Знае: што ні напішы —*
*Прэмію ж дадуць за тое,*
*Што ты свой, а не чужы!*

## Хомка і баль

*Хомка танцаваў на балі,*
*Быў цудоўны гэты баль,*
*Толькі ж лапку адтапталі*
*Хомку нашаму, на жаль!*

*Хтосьці так зрабіў няўмела —*
*Не танцор ён, а партач...*
*Лапка моцна забалела,*
*Хоць ты горка тут заплач!*

*Змоўкла музыка на балі,*
*І чакаць на балі сталі:*
*“Ці заплача гэты звер?”*

*Хомка ж у прымоўклай залі*
*Так падумаў: “Не цяпер...*
*Плакаць нельга мне на балі,*
*Як бы гэта ні чакалі!*
*Я на балі — кавалер!”*

*Хомка пакланіўся даме —*
*Той, з якою танцаваў,*
*І павёў яе кругамі,*
*Як аркестрык зноў зайграў!*

## Хомка і Варвара

*Ты — Варвара, я — Хама,*
*З аднаго мы дома,*
*І таму тваё імя*
*Добра мне вядома!*

*Розныя кватэры ў нас,*
*А пад’езд адзіны...*
*Пройдзе час, і ў першы клас*
*Ты пайсці павінна.*

*А пакуль яшчэ ў садок*
*Ходзіш раніцою...*
*Я ж, як той казаў, хадок*
*Не ў дзіцячы, не ў садок,*
*А ў зацішны свой куток —*
*Парк па-над ракою!*

*Век яшчэ наш залаты,*
*А жыццё, як люстра...*
*Ты — дзяўчынка, зорка ты!*
*Я — бульдог французскі!*

## Хомка, суд і сад

*“Там, дзе судзяць, там і суд!*
*Там, дзе садзяць, там і сад!” —*
*Склаўшы ў парку вершык-цуд,*
*Хомка радаваўся шмат.*

*І, адчуўшы сэнс багаты*
*У сугуччы гэтых слоў,*
*Хомка паляцеў дахаты —*
*Ходнік хадуном ішоў!*

*Дома, зачыніўшы дзверы,*
*Стаў на філасофскі лад,*
*Думаў у цішы кватэры*
*Зноў пра суд і зноў пра сад!*

*Марыў напісаць баладу*
*І з таго хацеў пачаць,*
*Што не можа суд без саду*
*Паўнацэнна існаваць!*

## Хомка і Еўразвяз

*Па зямлі і па вадзе*
*Важнаю персонай*
*Еўразвяз без нас ідзе —*
*У сэнсе: Еўразона!*

*Хомка гыркнуў: “Еўразвяз!*
*Я спытаць бяруся:*
*Ты чаму ідзеш без нас?!*
*Ну... без Беларусі?!”*

*Не пачуў Хама адказ,*
*Хоць наставіў вушы...*
*Моўчкі дыбаў Еўразвяз*
*Па вадзе і сушы.*

*Хомка да куста прынік;*
*Думаў, збіты з тропу:*
*“Як шкада, што я не бык!*
*Выкраў бы Еўропу!”*

## Хомка і мышка

*Мыш хавалася пад яткай.*
*Хомка тую мышку цоп!*
*Не, зусім не мёртвай хваткай —*
*Проста лапкай даў у лоб!*

*Не скалела, абамлела*
*Мышка, лёгшы на рагу...*
*Ачуняла, паглядзела*
*На Хаму: “Я пабягу?..”*

*“Ну, бяжы!” — Хама дазволіў.*
*Нават падпіхнуў: “Бяжы!”*
*І не меў такой ніколі*
*Хомка радасці ў душы!*

*Рады быў душой і целам,*
*І хваліў сябе, хваліў:*
*Мышцы ў лоб якраз пацэліў,*
*Толькі мышку не забіў!*

## Хомка і Напалеон

*З выгляду Напалеон*
*Быў спагады варты...*
*Снегу — на мільёны тон,*
*Лёду — на мільярды!*

*А марозу дык было*
*На мільярд мільёнаў!*
*І ў Смаргоні дапякло,*
*Зло найбольшае ўзяло*
*Тут Напалеона!*

*Як той п’яніца сям’ю,*
*Як юнак дзяўчыну —*
*У Смаргоні ён сваю*
*Армію пакінуў!*

*Хомка так пастанавіў,*
*Як аб тым дазнаўся:*
*“Я б такога не зрабіў!*
*З арміяй застаўся б!”*

## Хомка пра Ізраіль

*“У Канаду, у Кітай,*
*У Расію, у Еўропу —*
*Ты, Хама, паедзеш?..”*
*— Ай!*
*Бегаць там вялікі клопат!*

*І Атаву, і Парыж,*
*І Маскву з Пекінам гожым*
*Проста ж так не аббяжыш!*
*Лап не хопіць там бульдожых!*

*Бег мой не такі й даўгі...*
*І мае прыдатны лапы*
*На кароткія шляхі*
*І маленькія маштабы...*

*Ды на ўсіх на чатырох*
*Па Ізраілі па заможным*
*Я набегаўся б, як мог,*
*Бо Ізраіль аббегчы можна!*

## Хомка пра дзяржаўны загад

*Шмат начальнікаў у нас!*
*Не злічыць усіх зараз!*
*Не, начальства не праполеш,*
*Бо яго як зелля ў полі!*

*Горка з гэтай навіны:*
*Пасярэдзіне Еўропы*
*Як былі, і ёсць паны,*
*Як былі, і ёсць халопы!*

*Слуг таксама вельмі шмат...*
*І штовечара, шторанку*
*Ля начальніцкага ганку*
*Парк машынны акурат!*

*Як пачуў такія словы,*
*Хомка наш ускінуў бровы:*
*“Быў загад і неблагі —*
*Кожнага бугра на ровар*
*Пасадзіць недарагі!*

*А машыны дарагія*
*У начальнікаў забраць —*
*Хай, напружваючы шыі,*
*Коламі двума рыпяць!*

*Дзякуючы гэтай дзеі*
*Будзе вуліцам вальней,*
*І паветра пачысцее,*
*І бугор любы хутчэй*
*Пахудзее, стане спраўны —*
*Хоць бяры яго ў БАТЭ!..”*

*Той загад (загад дзяржаўны!)*
*Чуў наш Хомка па БТ.*

*Зрэшты, той загад суровы*
*Не загад, а так — нішто!*
*Бо ніхто не сеў на ровар,*
*“Мерседэс” не здаў ніхто!*

## Хомка і п’яны танкіст

*Танкам, як прыдурак банкам,*
*П’яны кіраваў танкіст,*
*І крычаў ён гэтак з танка:*
*“Не танкіст я, а таксіст!*

*Вас па Беларусі роднай*
*За мільёны два ці тры*
*Завязу куды заўгодна...*
*Лезце на браню, сябры!*

*А дасцё мне кроплю хлебнай,*
*То за гэтую слязу,*
*Як далей каму патрэбна,*
*То далей і павязу!..”*

*Танк грымеў. Мільгалі хаты.*
*Дым выкідвала карма...*
*“От, шкада, няма гранаты!” —*
*Думаў Хомка нездарма.*

## *Борис ЛУЦЕНКО, режиссер, народный артист Беларуси:*
## *«Если человечество будет возрождаться духовно, оно выживет»*

— Самое важное, мы живы-здоровы. Лично меня, как человека культуры, радует, что отремонтированы, реставрированы два таких грандиозных и важных для страны объекта, как Большой театр и цирк. Я был в цирках Европы и скажу: белорусская труппа может конкурировать на равных со многими коллективами, ну а наше здание, без сомнения, во много раз лучше, богаче и даже уникальнее! Благодаря и президенту, и директору Татьяне Бондаренко мы имеем современный, отличный дом для артистов и зрителей. А что там сделано для животных, так диву даешься: солярий, лифт, ветлечебница.



Вскоре после ремонта откроется еще одна знаменитая сцена — Купаловский театр. Уже теперь ясно, что возможности Национального театра после ремонта будут уникальными. В общем, восстановлены три ведущих объекта культуры — разве это не гордость? Единственная боль моя — родной Русский театр не попал в этот список.

А если говорить вообще о театральной жизни, которая, конечно, идет у нас трудно, сложно, то все-таки я рад, что в стране теперь есть Национальная театральная премия, что на драматические театры обращено внимание. И, конечно, это даст со временем свои плоды.

**— Какими успехами можете гордиться лично вы?**

— Я считаю, что за последние годы у меня было два удачных спектакля: “Эдип” и “Загадочный визит дамы”. Мне когда-то довелось отдыхать в Паланге в одно время с великим Товстоноговым. Мы часто и подолгу беседовали с ним о театре. Я спросил у Георгия Александровича: “Сколько у вас, по вашему мнению, спектаклей самых-самых”? Он ответил: “Три”. Я покраснел. Потому что в то время я своих лучших спектаклей называл больше... А мастер высочайшего класса Товстоногов — только три...

**— Чего вы ожидаете от будущего?**

— Конец света не состоялся — я уже рад. Видите, величайшие маги и те ошибаются! Я тем более предсказать ничего не могу. Единственное скажу: если человечество будет возрождаться духовно, оно выживет. Сейчас будущее в руках крупного капитала, миром правит денежный мешок. Не люди, не надо иллюзий, — миром правят деньги. Они могут погубить человечество.

# Каханне пераможа ўсё

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

— Я дастаткова рана стала дзяўчынай самастойнай і рана стала прымаць лёсавызначальныя рашэнні ў сваім жыцці. Адно з такіх рашэнняў было ўступіць у незарэгістраваную арганізацыю “Малады фронт”. Ні разу не пашкадавала аб гэтым. Калі мне было 16 гадоў, супраць мяне распачалі першую крымінальную справу за ўдзел у дзейнасці незарэгістраванай арганізацыі. Жыццё кіпела, усё імкліва змянялася. Шмат маіх сяброў дый я сама траплялі за ўдзел у той ці іншай акцыі пратэсту супраць сваволля ўлад за краты. Звычайна гэта быў спецпрыёмнік-размеркавальнік на вуліцы Акрэсціна.

**— Але адміністрацыйнымі арыштамі не скончылася. Табе давялося пабываць і ў самай “патаемнай” турме — у “амерыканцы”.**

— Там у мяне, дарэчы, з’явілася шмат новых сяброў. Але самае памятнае — гэта сітуацыя, калі знаходзішся ў інфармацыйным вакууме. Ідуць дні, тыдні, месяцы — і абсалютна нічога не вядома. Ніякай інфармацыі. Толькі тады я зразумела, наколькі гэта важна для кожнага чалавека. Для мяне гэта самы істотны момант. Нават не паводзіны людзей у масках ці нейкая грубасць, а менавіта адсутнасць інфармацыі для мяне была самай адчувальнай непрыемнасцю. Трэба было трапіць у турму, каб зразумець, праз што давялося прайсці тым людзям, якіх мы называем палітвязнямі.

**— Але ты не належыш да тых палітыкаў, для якіх нічога не існуе, акрамя самой палітыкі?**

— Для мяне свет на палітычных падзеях колам не стаў. Самай важнай падзеяй для мяне стала прапанова ад Зміцера Дашкевіча выйсці за яго замуж. Некалькі разоў па тых ці іншых фармальных, надуманых прычынах наш шлюб адмаўляліся рэгістраваць. Я пайшла на Раство ў царкву. Выйшла з адчуваннем, што ўсё нарэшце будзе добра. 25 снежня села ў аўтобус і паехала ў Гродна. Распісалі нас літаральна за 10 хвілін. Але я ніколі не забудуся пра гэту падзею. Усе мае імкненні і мары паказалі шлях, каторы ідзе да Бога. Яму ад мяне ўся падзяка за жыццё цяперашняе і тое, якое яшчэ будзе. А будзе яшчэ шмат чаго цудоўнага!

**Любоў ЛУНЁВА.**

## *Аліна ТАЛАЙ:*
## «У ЖЭСе я працавала за 70 долараў у месяц...»

*Аліна ТАЛАЙ — лепшая лёгкаатлетка Беларусі 2012 года. Дададзім, што многія спецыялісты менавіта яе называюць і самай перспектыўнай беларускай прадстаўніцай каралевы спорту. Спартсменка распавяла “Народнай Волі” аб самых адметных падзеях апошняга часу ў сваім жыцці і жыцці краіны.*



— Асабіста для мяне галоўнай падзеяй быў удзел у лонданскай Алімпіядзе, — кажа Аліна. — Гэта грандыёзнае мерапрыемства! Я з дзяцінства аб гэтым марыла, нават не думала, што некалі давядзецца выступіць на Гульнях. Атмасферу выступлення на Алімпіядзе нават не перадаць словамі. Ды і медаль на чэмпіянаце свету ў Стамбуле ніколі не забудзецца. Першая мая ўзнагарода на сур’ёзным узроўні.

**— Якія падзеі ў жыцці краіны за апошнія гады вы адзначылі б?**

— Асабліва стрэсавых сітуацый, на мой погляд, не было. Дэвальвацыя ў свой час нарабіла шмат шуму, але, напрыклад, у мяне было не так шмат зберажэнняў, каб на мне гэта моцна адбілася. Хоць сітуацыя склалася і на самай справе сумная.

**— А ў вашай біяграфіі ёсць нейкія знамянальныя этапы?**

— У 2008 годзе не паступіла на бюджэтную форму навучання ў педагагічны ўніверсітэт, а таму пайшла ў Оршы працаваць у ЖЭС. І сёння я нікольні не шкадую аб гэтым этапе ў маім жыцці. Убачыла, якія ўмовы працы, што за рабочы кантынгент, за якія грошы людзі працуюць... Гэта стала для мяне дадатковым стымулам для таго, каб нечага ў сваёй кар’еры дасягнуць.

**— На якой вы пасадзе працавалі ў ЖЭСе?**

— Каля паўгода была кантралёрам вымяральных прыбораў — па падвалах хадзіла. Не сказала б, што праца была надта цяжкая (з 8 раніцы да 5 вечара), але складана было сумяшчаць рабочы працэс з трэніроўкамі. Ды і атрымлівала капейкі — каля 70 долараў у месяц. Аднак, паўтаруся, мне патрэбны быў штуршок для далейшага росту ў жыцці. Думаю, я яго атрымала. І сёння з гонарам магу сказаць, што 2012 год быў для мяне па вялікім рахунку ўдалы. Вельмі хацелася б, каб і наступны год прайшоў для мяне пад такой жа зоркай.

**— Магчыма, трэба на Новы год напісаць жаданне на паперцы, спаліць яе, а попел выпіць разам з шампанскім? Кажуць, у такім выпадку жаданні спраўджваюцца...**

— Паліла ўжо, да гэтага часу памятаю смак попелу... Не, больш такога не будзе. Ды і не прымхлівы я чалавек. Калі б усё было так проста, то і самому не трэба было б нічога рабіць.

**Алесь СІВЫ.**

### АСАБІСТАЯ СПРАВА

Рашэнне прызнаць Аліну Талай лепшай лёгкаатлеткай 2012 года Беларусі прынялі выканкам Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі і трэнерскі савет нацыянальнай каманды.

У бягучым годзе 23-гадовая аршанская спартсменка стала ўладальніцай бронзавага медаля ў бегу на 60 м з бар’ерамі (вынік — 7,97 сек.) на чэмпіянаце свету ў закрытых памяшканнях у Стамбуле, а таксама заваявала сярэбраны медаль у бегу на 100 м з бар’ерамі (12,91 сек.) на чэмпіянаце Еўропы ў Хельсінкі.

Акрамя таго, ураджэнка Оршы выйшла ў паўфінал бегу на 100 м з бар’ерамі на Алімпійскіх гульнях-2012 у Лондане, паказаўшы вынік 12,84 секунды. У кваліфікацыі лонданскіх Гульняў Аліна Талай устанавіла асабісты рэкорд — 12,71 секунды.

Сярод трэнераў па рабоце з асноўным складам лепшым стаў настаўнік Аліны Талай Віктар Мяснікоў.

## *Ирина ДОРОФЕЕВА:*
## *«Мечтаю, чтобы родная Беларусь стала любима и уважаема в мире»*

*Заслуженная артистка Беларуси Ирина Дорофеева призналась “Народной Воле”, что хочет сняться в кино и родить ребенка.*

**— Как вы думаете, какие важные события произошли в жизни нашей Беларуси за последние 20 лет?**

— Мы живем в независимом государстве, у которого своя Конституция, своя новая и, уверена, добрая история. Наши достижения очевидны: строятся города, поднимается частный бизнес, повышается уровень культуры наших граждан. Я чувствую на концертах, как изменился мой зритель, как он похорошел, приобрел достаток, как завоевала настоящую популярность белорусская песня: люди хотят слышать родные песни, исполненные на родном языке.

**— Какими успехами можете гордиться лично вы?**

— Лично я за 20 лет независимости Беларуси смогла пройти весь путь от ученицы до артистки. Я познакомилась со своей профессией и, мне кажется, уверенно реализовываю себя в ней. Записала более чем 250 песен, 13 альбомов, 20 клипов. Сделала много сольников по всей стране. А еще нашла круг единомышленников, попробовала себя даже как драматическая актриса. Стала преподавателем в Университете культуры, можно сказать, у меня в университете появилась “своя школа”. Ребята, которых я учила, не пропали, они выступают, записываются, тоже реализовываются. За эти годы я повидала много стран, но главное — я пустила корни в Минске. Строю дом (пока на уровне фундамента). Это моя давняя мечта.

**— Чего вы ожидаете от будущего?**

— Мечтаю, чтобы родная Беларусь стала любима и уважаема в мире. Мы заслужили это трудом, гостеприимством, верой, искренностью. А сама мечтаю найти в будущем настоящего союзника, родную душу. Конечно, родить ребенка... И, может, даже сняться в кино.

**Елена МОЛОЧКО.**



## ПОНЕДЕЛЬНИК, 31 ДЕКАБРЯ

### Беларусь 1

**06.55** “Існасць”.
**07.20, 09.10, 12.15, 15.30** Мультфильмы.
**07.50** “Доброе утро, Беларусь!”.
**09.00, 12.00, 15.00** “Новости”.
**09.20 “Астерикс и Обеликс против Цезаря”.** Худ.фильм.
**11.25** “Мастер путешествий”.
**13.50** “Моя правда”.
**15.15** “Новости региона”.
**15.40 “Снежный человек”.** Худ.фильм.
**17.35,04.25 “Ирония судьбы, или С легким паром”.** Худ.фильм.
**21.00** “Панорама”.
**21.35 “Новогодние сваты”.** Худ.фильм.
**23.25, 00.05** “Место встречи — Новый год!”.
**23.50** Новогоднее поздравление Президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко.
**02.50** “Дискотека 80-х. Звездная мистерия”.

### ОНТ

**07.00** “Наше утро”.
**08.00, 09.00, 16.00, 20.00** “Наши новости”.
**09.05** “Контуры”.
**10.05 “Бедная Саша”.** Худ.ф.
**11.55 “Операция “С Новым годом!”.** Худ.фильм.
**13.50 “Золушка”.** Худ.фильм.
**15.25** “Обратный отсчет”.
**16.10 “Любовь и голуби”.** Худ.фильм.
**18.15 “Иван Васильевич меняет профессию”.** Худ.фильм.
**20.25** “Один против всех”. Новогодний выпуск.
**21.15** “Проводы старого года”.
**23.30, 00.05** “Голубой огонек”.
**23.50** Новогоднее поздравление Президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко.
**02.15** “Новогодняя ночь”.
**04.40** “Дискотека 80-х”.

### РТР-Беларусь

**07.00 “Стреляй немедленно”.** Худ.фильм.
**08.40** “Погода на неделю”.
**08.45** “Утренняя почта”.
**09.20 “Чародеи”.** Худ.фильм.
**12.10** “Лучшие песни-2012”.
**14.00** “Вести”.
**14.25** “Короли смеха”.
**17.05 “Однажды в Новый год”.** Худ.фильм.
**18.50** “Танцы со звездами”. Гала-концерт.
**20.25 “Красная Шапочка”.** Худ.фильм.
**22.25, 23.00** “Новогодний парад звезд”.
**22.55** Новогоднее обращение Президента Российской Федерации Владимира Владимировича Путина.
**23.50** Новогоднее поздравление Президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко.
**00.05** “Новогодний голубой огонек-2012”.
**04.15** “Большая новогодняя дискотека”.

### НТВ-Беларусь

**06.50 “Дело Крапивиных”.** Сериал.
**08.25 “Заходи — не бойся, выходи — не плачь...”.** Худ.фильм.
**10.00, 13.00** “Сегодня”.
**10.20** “Едим дома”.
**10.55** “Чудо техники”.
**11.30** “Дачный ответ”.
**12.35, 13.20 “Улицы разбитых фонарей”.** Сериал.
**19.20 “День додо”.** Худ.фильм.
**21.00** “Говорим и показываем”.
**23.50** Новогоднее поздравление Президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко.
**00.05** “Ээхх, разгуляй!”. Фестиваль хорошей музыки.
**02.20 “Глухарь, приходи, Новый год!”.** Худ.фильм.
**03.55** “Спето в СССР: “Ирония судьбы...”.

### СТВ

**06.35** “Красиво жить”.
**07.30 “Пришельцы на чердаке”.** Худ.фильм.
**09.00** “Неделя”.
**10.10 “Элвин и бурундуки-2”.** Худ.фильм.
**11.50, 15.10, 16.45** “Специальный проект”.
**13.30 “Девчата”.** Худ.фильм.
**16.00** “Джейми Оливер: рождественская вечеринка”.
**16.30, 19.30** “24 часа”.
**18.10 “Особенности национальной охоты в зимний период”.** Худ.фильм.
**20.00** “Минск-2012”.
**20.30 “Новые роли старого кино”.**
**21.20** “Легенды Ретро FM”.
**23.50** Новогоднее поздравление Президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко.
**00.05** “Новогодний концерт”.
**02.40** “Большой КВН”.
**05.10** “Танцы до утра”.
**06.40** “Неголубой огонек”.

### Беларусь 2

**07.15, 21.10** “Тэлебарометр”.
**07.20 “Свежина с салютом”.** Худ.фильм.
**08.55** Мультфильм.
**09.45** “Навіны надвор’я”.
**10.20 “Сказка о Звездном мальчике”.** Худ.фильм.
**12.35, 18.45** “Женская лига”.
**13.10** “Школа ремонта”.
**14.20** “Под грифом “Известные”.
**14.55 “Чародеи”.** Худ.фильм.
**17.50** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**19.15** “КЕНО”.
**19.20 “В двух километрах от Нового года”.** Худ.фильм.
**21.15** “Новогодняя “Дискотека 80-х” в “Олимпийском”.
**23.00, 00.05** Новогодняя ночь на телеканале “Беларусь 2”.
**23.50** Новогоднее поздравление Президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко.
**02.30 “Карнавальная ночь-2, или 50 лет спустя”.** Худ.фильм.
**04.45 “Очень новогоднее кино, или Ночь в музее”.** Худ.фильм.

### Мир

**05.00, 14.30, 20.30, 04.15** Мультфильмы.
**07.05 “Мама”.** Худ.фильм.
**09.00, 15.00** “Новости Содружества”.
**09.10 “Чародеи”.** Худ.фильм.
**11.50** “Старый год, шумные проводы”. Концерт.
**14.00** “Сделано в СССР”.
**15.10** “Еще не вместе”.
**16.20, 01.45 “Танцор диско”.** Худ.фильм.
**18.50** Концерт Юрия Антонова.
**21.50, 23.00** “Новый год под пальмой”.
**22.50** Новогоднее поздравление.
**00.00 “Али-Баба и 40 разбойников”.** Худ.фильм.

### Белсат

**07.00** “Невядомая Беларусь”: “Цівалі”. Дак.фільм.
**07.30** “МакраФон”: “Белая яблыня грому”. Канцэрт гурта “Крамбамбуля”.
**08.05** “Гісторыя пад знакам “Пагоні”.
**08.15** “Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча”.
**08.40** “Дакументальная гадзіна”: “Ізгоі”. Дак.фільм.
**17.55, 21.25 “Зямля абяцаная”.** Серыял.
**18.45** “Калыханка для самых маленькіх”.
**19.00, 20.00** “Інфармацыйна-публіцыстычны вечар”.
**19.25** “Гаспадар...”. Дак.фільм.
**20.25** “Андрэй Такінданг: “...апрануўшы белую кашулю”. Рэпартаж.
**20.45** “Назад у будучыню”.
**21.00** “Аб’ектыў”.
**22.25** “Два на два”.
**22.50, 00.05** “МакраФон”. “Канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча”.
**23.20** “Эксперт”.
**00.35 “Золата дэзерціраў”.** Маст.фільм.
**02.35** “Кніга рэкордаў Шуткі”. Дак.фільм.
**03.55 “Дама з камеліямі”.** Маст.фільм.
**05.40** “Музычныя кліпы”.

## ВТОРНИК, 1 ЯНВАРЯ

### Беларусь 1

**07.35, 08.55, 12.10, 15.15** Мультфильмы.
**07.50** “Доброе утро, Беларусь!”.
**10.10 “Новогодние сваты”.** Худ.фильм.
**12.00, 15.00** “Новости”.
**13.20, 01.30 “Срочно требуется Дед Мороз”.** Худ.фильм.
**15.30 “Золотой ключик”.** Худ.фильм.
**17.35** “...Которому за 50”. Юбилейный вечер Олега Митяева.
**19.05 “Астерикс и Обеликс: миссия “Клеопатра”.** Худ.фильм.
**21.00** “Панорама”.
**21.35 “Как казаки...”.** Худ.фильм.
**23.45 “Снежный человек”.** Худ.фильм.

### ОНТ

**08.00 “Любовь и голуби”.** Худ.фильм.
**09.45, 13.40** Мультфильмы.
**10.30 “Девчата”.** Худ.фильм.
**12.05 “Иван Васильевич меняет профессию”.** Худ.фильм.
**15.00, 16.10 “Ирония судьбы, или С легким паром”.** Худ.ф.
**16.00, 20.30** “Наши новости”.
**18.30 “Ирония судьбы. Продолжение”.** Худ.фильм.
**20.45** “Две звезды”. Большой новогодний концерт.
**22.50 “Бриллиантовая рука”.** Худ.фильм.
**00.30** “Красная звезда” представляет... “20 лучших песен года”.

### РТР-Беларусь

**05.20 “Обыкновенное чудо”.** Худ.фильм.
**07.40** “Лучшие песни”. Праздничный концерт из Государственного Кремлевского дворца.
**09.20 “Моя любовь”.** Худ.фильм.
**11.05 “Снег на голову”.** Худ.фильм.
**12.45, 14.10** “Не только о любви”. Концерт Николая Баскова.
**14.00** “Вести”.
**14.45 “Однажды в Новый год”.** Худ.фильм.
**16.20** “Юмор года”.
**18.00** “Песня года”.
**20.20 “Елки”.** Худ.фильм.
**21.50** “Национальная музыкальная премия-2012”. Церемония награждения победителей.
**01.00 “Стиляги”.** Худ.фильм.

### НТВ-Беларусь

**04.40** “Рождественская встреча НТВ”.
**06.00 “Зимний круиз”.** Худ.фильм.
**07.35** “И снова здравствуйте!”.
**08.20 “Таксистка: Новый год по Гринвичу”.** Худ.фильм.
**10.15 “Супруги”.** Худ.фильм.
**12.00 “Тамбовская волчица”.** Сериал.
**19.00** “Сегодня”.
**19.30 “Паутина”.** Сериал.
**22.50 “Снова Новый”.** Худ.фильм.
**00.30 “Опергруппа”.** Сериал.

### СТВ

**08.25 “Семь нянек”.** Худ.фильм.
**09.40 “Девчата”.** Худ.фильм.
**11.30 “Особенности национальной охоты в зимний период”.** Худ.фильм.
**12.50 “Зигзаг удачи”.** Худ.фильм.
**14.25 “Самая обаятельная и привлекательная”.** Худ.фильм.
**16.00** “Джейми Оливер: рождественская вечеринка”.
**16.30, 19.30** “24 часа”.
**16.40** “Трудно жить легко”. Концерт Михаила Задорнова.
**17.40 “Четыре таксиста и собака”.** Худ.фильм.
**20.00 “Четыре таксиста и собака-2”.** Худ.фильм.
**22.20** “Легенды “Ретро FM”.

### Беларусь 2

**06.35 “В двух километрах от Нового года”.** Худ.фильм.
**08.20, 21.30** “Тэлебарометр”.
**08.25, 12.20** Мультфильм.
**08.35 “Новогодние приключения в июле”.** Худ.фильм.
**09.55 “Приключения Буратино”.** Худ.фильм.
**12.55, 21.35** “Женская лига”.
**13.25 “Бриллианты для Джульетты”.** Сериал.
**17.00** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**17.55** Футбол. Чемпионат Англии. “Манчетсер Сити”—”Сток Сити”. Прямая трансляция.
**20.00 “Моя мама — невеста”.** Худ.фильм.
**21.25** “КЕНО”.
**22.00 “Карнавальная ночь-2, или 50 лет спустя”.** Худ.фильм.
**00.10 “Женщины”.** Худ.фильм.

### Мир

**05.00** Мультфильмы.
**06.35 “Про Красную Шапочку. Продолжение старой сказки”.** Худ.фильм.
**09.00, 18.00** “Новости Содружества”.
**09.10 “Рыжик в Зазеркалье”.** Худ.фильм.
**11.15 “Эта веселая планета”.** Худ.фильм.
**12.55 “Чародеи”.** Худ.фильм.
**15.35 “Танцуй, танцуй”.** Худ.фильм.
**18.10 “Али-Баба и 40 разбойников”.** Худ.фильм.
**19.55 “Он хуже меня”.** Худ.фильм.
**21.50 “Самый лучший день”.** Худ.фильм.
**23.30** “Большая новогодняя дискотека”.
**01.40** “Новогодний “голубой огонек”.

### Белсат

**07.00, 08.00** “Інфармацыйна-публіцыстычны вечар”.
**07.25** “Зімнік у цэнтры Сусвету”. Дак.фільм.
**08.25, 21.00** “Аб’ектыў”.
**08.50** “Казкі для дзетак”.
**09.45, 20.45** “Назад у будучыню”.
**10.00** “Рабінзоны Мантсінсаары”. Дак.фільм.
**10.55** “Снежны завулак-10”. Навагодні канцэрт.
**12.00 “Каханне ў падземным пераходзе”.** Маст.фільм.
**13.00** “Два на два”.
**13.25** “Кніга рэкордаў Шуткі”. Дак.фільм.
**14.45, 22.10** “Эксперт”.
**15.25** “Андрэй Такінданг: “...апрануўшы белую кашулю”. Рэпартаж.
**15.40 “Дама з камеліямі”.** Маст.фільм.
**17.25** “Над Нёмнам”.
**17.45, 21.20 “Зямля абяцаная”.** Серыял.
**18.45** “Калыханка для самых маленькіх”.
**19.05** “МакраФон”. Канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча.
**20.10** “Святочны вагон”.
**22.40** “Мы вольныя людзі”. Дак.фільм.
**23.35 “Вялікі звер”.** Маст.фільм.
**00.45** “Сімфанічны канцэрт”.

## СРЕДА, 2 ЯНВАРЯ

### Беларусь 1

**07.05, 08.35, 12.15** Мультфильмы.
**07.35** “Доброе утро, Беларусь!”.
**09.45 “Как казаки...”.** Худ.фильм.
**12.00, 15.00** “Новости”.
**13.50** “Новогодний концерт”.
**15.10** “Новости региона”.
**15.30 “Золотая рыбка”.** Худ.фильм.
**17.15** “Два маэстро. Возвращение легенды”. Концерт.
**18.55 Астерикс на Олимпийских играх”.** Худ.фильм.
**21.00** “Панорама”.
**21.35 “Фонограмма страсти”.** Худ.фильм.
**23.20 “Золотой ключик”.** Худ.фильм.

### ОНТ

**07.00, 11.20** Мультфильмы.
**07.20, 08.05 “Не может быть!”.** Худ.фильм.
**08.00, 09.00, 16.00, 20.30** “Наши новости”.
**09.05 “Труффальдино из Бергамо”.** Худ.фильм.
**12.20 “Бриллиантовая рука”.** Худ.фильм.
**14.00 “Ирония судьбы. Продолжение”.** Худ.фильм.
**16.10** “Батлейка”.
**18.30** “Поле чудес”.
**19.30** “Пусть говорят”.
**20.45 “Zолушка”.** Худ.фильм.
**22.25** “Большая разница”.
**23.25** “Легенды “Ретро FM”.

### РТР-Беларусь

**07.00 “Летучая мышь”.** Худ.фильм.
**09.25 “Счастье по рецепту”.** Худ.фильм.
**12.30 “Елки”.** Худ.фильм.
**14.00, 20.00** “Вести”.
**14.10** “Комната смеха”.
**14.30 “Домработница”.** Худ.фильм.
**16.10** “Юмор года”.
**17.50** “Песня года”.
**20.25 “Елки-2”.** Худ.фильм.
**22.05 “Куклы”.** Худ.фильм.

### НТВ-Беларусь

**06.40 “Агент национальной безопасности”.** Сериал.
**08.15 “Возвращение Мухтара”.** Сериал.
**10.00, 19.00** “Сегодня”.
**10.20** “Еда без правил”.
**11.15 “Расписание судеб”.** Сериал.
**13.50** “Следствие вели...”.
**14.40 “Прощай, “макаров”!”.** Сериал.
**19.30 “Паутина”.** Сериал.
**22.50 “Опять Новый”.** Худ.фильм.
**00.25 “Опергруппа”.** Сериал.

### СТВ

**06.30 “Солдаты, Новый год, твою дивизию”.** Сериал.
**08.00** “Легенды СССР”.
**09.00** “Наше счастливое детство”.
**10.00** “Советский спорт”.
**11.00** “Рождение и смерть советской колбасы”.
**12.00** “Советская мода”.
**13.00** “Советские праздники”.
**14.00** “Советское кино”.
**15.00** “Советская эстрада”.
**16.00** “Джейми Оливер: рождественская вечеринка”.
**16.30, 19.30** “24 часа”.
**16.45** “Специальный проект”.
**17.40** “Все будет чики-пуки!!!”. Концерт Михаила Задорнова.
**20.00 “Пятый элемент”.** Худ.фильм.
**22.20** “Вечерний квартал”.
**00.05** “Какие люди!”.

### Беларусь 2

**06.40 “Бриллианты для Джульетты”.** Сериал.
**10.05, 21.20** “Тэлебарометр”.
**10.10, 20.55** “Женская лига”.
**10.35** “Наперад у мінулае”.
**11.10 “Женщины”.** Худ.фильм.
**13.20 “Очень новогоднее кино, или Ночь в музее”.** Худ.фильм.
**15.30 “Колье для Снежной бабы”.** Худ.фильм.
**17.15 “Викинги против пришельцев”.** Худ.фильм.
**19.20** “Новогодняя “Дискотека 80-х” в “Олимпийском”.
**21.25** “Спортлото 5 из 36”.
**21.30** “КЕНО”.
**21.35 “Моя мама — невеста”.** Худ.фильм.
**22.55** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. “Ньюкасл”—”Эвертон”. Прямая трансляция.

### Мир

**05.00** Мультфильмы.
**06.30 “Приключения Буратино”.** Худ.фильм.
**09.00, 15.00, 18.00** “Новости Содружества”.
**09.10, 01.00 “Месть и закон”.** Худ.фильм.
**13.00** Мультфильм.
**15.10** “Новогоднее “Кривое зеркало”.
**17.10, 18.10** “Большой новогодний вечер”.
**21.20 “Артефакт”.** Худ.фильм.
**23.00 “Новогодние мужчины”.** Худ.фильм.

### Белсат

**07.00, 21.00** “Аб’ектыў”.
**07.15** “Над Нёмнам”.
**07.30** “Мы вольныя людзі”. Дак.ф.
**08.25** “Казкі для дзетак”.
**08.45** “Назад у будучыню”.
**08.55** “МакраФон”: “Белая яблыня грому”.
**09.55** “Малыя здабыўцы”. Дак.фільм.
**10.40** “Снежны завулак-8”. Навагодні канцэрт.
**11.40** “Сімфанічны канцэрт”.
**12.45** “Эксперт”.
**13.15** “Рука цырульніка”. Дак.фільм.
**14.05** “Святочны вагон”.
**14.40 “Вялікі звер”.** Маст.фільм.
**15.50** “МакраФон”. Канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча.
**17.00 “Гэта я, злодзей”.** Маст.фільм.
**18.40** “Калыханка для самых маленькіх”.
**18.55** “Чэшская мара”. Дак.фільм.
**20.25** “Моўнік”.
**20.35** “Маю права”.
**21.20** “Форум”.
**22.05 “Ясмін”.** Маст.фільм.

